PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 20 (1879) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 17 МАЯ 1992 г. ЦАНА 1500 зл.




## „НІВА” І ЕЙНЫЯ ДАБРАДЗЕІ

**29 красавіка ў Беластоку адбылася сустрэча рэдакцыйнага гурту «Нівы» і прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў з дырэктарам Аддзела па пытаннях нацыянальных меншасцяў Дэпартамента культурнай адукацыі Міністэрства культуры і мастацтва Багумілай Бэрдыхоўскай. Нарада датычыла будучыні беларускага тыднёвіка «Ніва». Дыскутанты пагадзіліся, што зацікаўленыя справай беларускія арганізацыі спаткаюцца 4 мая дзеля стварэння Праграмнай рады тыднёвіка «Ніва» - асацыяцыі, якая ў далейшым мае быць выдаўцом газеты. Такім чынам фармальная незалежнасць «Нівы» ад Беларускага грамадска-культурнага таварыства сталася фактам.**

### ЖАЛЮГОДНЫЯ ПАЧАТКІ

Кансенсус, паколькі так можна назваць гэтае вырашэнне, не прыйшоў лёгка. Ужо ў самым пачатку сустрэчы давялося прасіць незапрошаных асоб пакінуць залу Галоўнага праўлення БГКТ /а было іх прыблізна столькі ж, што і запрошаных/ ды не ўсіх хутка ўдалося пераканаць. Выходзіўшы без супраціву з залы, даволі карэктна павёў сябе хор Беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ, які, мусіць, меў быць доказам жывучасці Таварыства і яго дзяяцкай энергіі. Але навонкі харысткі прымянілі ўжо больш радыкальныя метады - ледзь не пабіліся з БАСаўскай і ЗБМаўскай моладдзю, якая з'явілася на вул. Варшаўскую з транспарантамі *Bez komunistów Niwa też może istnieć* ды *Незалежная Ніва для ўсіх беларусаў! Niezależność dla Niwy!* Але ўсё-ткі правільна была ацэнена расстаноўка сіл і заслужаныя самадзейнікі не паважыліся правучаць «зялёны аб'ект маніпуляцыі некаторых асоб»

### ГЭТЫЯ ДЗВЕ-ТРЫ АСОБЫ...

маніпулююць не толькі недасведчанай моладдзю, але і ўводзяць псіхічны тэрор у рэдакцыю «Нівы», сказаў на сустрэчы намеснік старшыні ГП БГКТ Янка Сычэўскі. Яны націскам і хлуснёю, спасылаючыся на фальшывую дэмакратыю, не даюць публікаваць аб'ектыўныя інфармацыі пра Беларускае таварыства. Іхнія тэксты ніжэй не толькі журналісцкай этыкі, але і элементарнай чалавечай.

### ПАЗІЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ

**Віталь Луба:** Я стараўся весці газету, адкрытую для ўсіх беларускіх арганізацыяў. За гэта Таварыства мяне крытыкавала, хоць і не памятаю ніводнага выпадку, каб не пайшоў матэрыял БГКТ. Эскалацыя націскаў наступіла на пасяджэнні Прэзідыума ГП 22 сакавіка, дзе патрабавалася ад мяне звольніць неправамысных журналістаў, нягледзячы на іхнюю мерытарычную вартасць. Наступным крокам дзеля падпарадкавання газеты і асабіста мяне было забранне камп'ютэраў. Хадзіўшы на Варшаўскую, выдалі мы два нумары, але атмасфера псавалася. Машыністкам не было адпаведных варункаў працы, журналісты абяцалі пайсці ў адстаўку. У такіх умовах, не бачачы ўжо магчымасцяў пагаднення, я рашыў сам падаца ў адстаўку на Прэзідыуме ГП 17 красавіка. Раней гаварыў я са старшынёю Таварыства Аляксандрам Баршчэўскім і прапанаваў яму правесці конкурс на новага галоўнга рэдактара «Нівы». Але сталася інакш - Прэзідыум сам назначыў на гэту

працяг на стар. 6

## БУДЗЕ „НОВЫ” ЛІЦЭЙ

*Размова з Яўгенам Сачко, новым дырэктарам Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы.*

**- На пачатку папрашу некалькі асноўных вестак з Вашай біяграфіі.**

**Яўген Сачко:** Нарадзіўся я ў Новым Беразове ў 1962 годзе. У 1970 пераехаў з бацькамі ў Гайнаўку, дзе закончыў пачатковую школу і беларускі ліцэй. Вышэйшую адукацыю здабываў у Любліне, ва універсітэце Марыі Кюры-Складоўскай - закончыў там геаграфічны факультэт. Працаваць вярнуўся ў Гайнаўку - спярша настаўнічаў у пачатковай школе н-р 5, а пазней запрапанавалі мне працу ў беларускім ліцэі - зараз два гады як я тут працую. Ад 1 сакавіка гэтага года, у выніку праведзенага конкурсу, я - дырэктар гэтай школы.

**- Што пакінуў Вам у спадчыне папярэдні дырэктар школы Васіль Дамброўскі?**

**Я. Сачко:** Спадчына, якую пакінуў тут дырэктар Дамброўскі - вялікая. Зрабіў ён за кароткі перыяд сваёй працы велізарную справу - арганізаваў у школе лабараторыю для навучання нямецкай мовы, забяспечыў усе класы аудыёвізуальнай апаратурай і, што самае важнае, запэўніў грошы на пабудову новага будынка школы. Дэкларацыю пра фінансавую падтрымку пабудове даў на пісьме міністр нацыянальнай адукацыі...

**- Якая сума там успамінаецца?**

**Я. Сачко:** Сем мільярдаў - гэта на пабудову будынка школы ў сырым стане. Грошы маюць быць пераказаны Куратарыі асветы і выхавання з зазначэннем, што яны менавіта на новае памяшканне нашага ліцэя. Калі сродкі гэтыя акажуцца пад канец месяца ў Куратарыі, аб'явім тады конкурс, у выніку якога выбярэм будаўнічую фірму, а ў маі ўжо, думаю, запачатку-

працяг на стар. 6

## ВЫРАТАВАЦЦА АД ЭКАНАМІЧНАЙ КАТАСТРОФЫ

Сельскагаспадарчыя гурткі, якія ў нас людзі называюць кулкамі /па-польску: kółka rolnicze/, перажываюць цяпер, як і ўся вёска ў Польшчы, цяжкі час. Адны развaліліся ўжо, другія, калі і дыхаюць яшчэ, дык ледзь-ледзь, трэція наогул не ведаюць, што з сабою зрабіць.

Кулка ў Ласінцы заўсёды лічылася няддрэнным. Гаспадарылі так, што ўвесь час выходзілі на сваё. Толькі два разы бралі пазычку ў банку: раз - на сродкі для апырсквання раслін, другі раз - на камбайн. Абодва разы выйгралі. Для прыкладу, за камбайн заплацілі 4 мільёны злотых, і зараз жа яго цана скочыла на 17 мільёнаў. Сённяшні кіраўнік кулка Канстанцін Пракапюк шкадуе, што тады не купілі два камбайны. Аплацілася б. Калі я наведаў Ласінку, Канстанціна Пракапюка на базе не было. Разам з членам праўлення кулка Мікалаем Селеванюком ладзілі яны ў прыватным варштаце таго апошняга кулкоўскую дыскавую барану. Час такі, што і кіраўнічы чын мусіць узяцца за руль трактара або за ключы. Ды, зрэшты, хто мае гэта рабіць, калі зімою ў ласінскім кулку былі ўсяго чатыры працаўнікі: апрача кіраўніка яшчэ бухгалтарка і двух трактарыстаў. «Летам трэба будзе як мінімум пяцёх трактарыстаў, камбайнёры, - кажа К. Пракапюк, - але на зіму і тыя, што працавалі, мусілі браць бясплатны водпуск». Сельскагаспадарчую паслугу ласінскае кулка нясе дзесьці 15-ці вёскам Нараўскай гміны. Працуе зусім самастойна, без ніякіх указаў зверху. Няма ўжо ніякага гміннага каардынацыйнага цэнтра /у Нарве не то што нейкі цэнтр, нават кулка развалілася/. Ёсць яшчэ якіесьці ваяводскія ўлады, але ўжо яны ніякага дачынення да кулка не маюць. Заняліся гаспадарчай дзейнасцю, г.зн. гандлем, падказваюць у Ласінцы.

М. Селеванюк кажа: «Не чакаем ад іх ніякай дапамогі. Няхай толькі нам не перашкаджаюць».

Старшыня Ваяводскага праўлення Сельскагаспадарчых гурткоў Здзіслаў Ліпскі лічыць, што людзям часта пускаюць пыл у вочы, быццам бы пасрэдныя звенні /такія, як ваяводскае праўленне/ непатрэбныя. Лёгка разбіць, ліквідаваць нейкія структуры, толькі раней трэба задумацца над сэнсам такога дзеяння. Цяжка ўявіць сабе эфектыўную працу такога аднаго кулка, ці проста вясковага гурту, без нейкага каардынацыйна-інфармацыйнага цэнтра. Не можа ж адзін гаспадар, ці нават пяць-дзесяць гаспадароў дазволіць сабе на тое, каб шукаць, дзе

працяг на стар. 5

## НА МЯЖЫ

### РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ
Частка XV

Праваслаўная царква і каталіцкі касцёл у Беларусі не маюць амаль ніякага патрыятычна-беларускага вопыту. А гэта таму, што ні царква, ні касцёл не дзейнічалі на грунце беларускага патрыятызму. Абмяжоўвалі яны сваю практыку да дзейнасці ў карысць рускіх і польскіх пачуццяў і эмоцыяў. І, зразумела, з дня на дзень не могуць яны шляхам аднаразовага акту ці дэкларацыі стаць беларускімі. Іх пераход на беларускі грунт — гэта даўжэйшы і досыць складаны працэс. І ўсё ж акт, такая дэкларацыя неабходныя. Справа ў тым, што як у адносінах да беларускага народа, так і ў адносінах да цывілізаванага свету праваслаўная царква і каталіцкі касцёл у Беларусі павінны даказаць, што паводзілі сябе немаральна ў адносінах да народа, на ўзлонні якога дзейнічалі, што новай паставай даказваюць сваю добрую волю поўнага служэння беларускай нацыі.

Каталіцкі касцёл памог палякам нацыянальна выжыць у цяжкі гістарычны час. Тое самае можна сказаць аб праваслаўнай царкве ў гісторыі Расіі. На жаль, каталіцкі касцёл і праваслаўная царква памаглі беларускаму народу нацыянальна загінуць. Гэтыя рэлігійныя ўстановы зрабілі ў Польшчы і Расіі, як тыповыя рэлігіі ў гэтых краінах, для сваіх нацый усё, каб захаваць нацыянальную свядомасць і Расіі (выключэнне - перыяд сталінізму) не было амаль ніводнай крыўднай для моў і культур гэтых народаў з'яваў, супраць якіх не выступілі б вядучыя ў гэтых краінах рэлігіі — каталіцкая і праваслаўная. А ў гісторыі Беларусі было вельмі мала выпадкаў, калі вядучыя тут каталіцкі касцёл і праваслаўная царква выступілі б супраць крыўдаў

### АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

нацыянальную мову. На жаль, гэтыя веравызнанні, а лепш сказаць, установы, звязаныя з гэтымі веравызнаннямі на Беларусі, зрабілі ўсё, каб выкараніць з духоўнасці беларускага народа ўсю яго нацыянальную тоеснасць і на гэтым грунце пасеяць зерні польскай і рускай духоўнасці. Гэтыя зерні ўзыйшлі, закаласіліся і далі багаты ўраджай у выглядзе соцень тысяч, а можа і мільёнаў бесхрыбетнікаў, абыякавых бястварых тыпаў або і яўных, ярых рэнегатаў і ворагаў беларушчыны.

Па сутнасці ва ўсёй гісторыі Польшчы і амаль ва ўсёй гісторыі беларускай мовы і беларускай культуры, хаця такія крыўды выпаўнілі шчыльна ўсё беларускае мінулае.

Якраз сёння наступіў час, у якім каталіцкі касцёл і праваслаўная царква, а таксама іншыя веравызнанні маюць рэабілітавацца і згладзіць сваю віну як перад людзьмі, так і перад Богам. Сёння ў Рэспубліцы Беларусь без боязі і сораму, а з гонарам могуць заявіць: будзем паслядоўна і верна служыць таму, што служыць беларускаму адраджэнню, беларускай мове і беларускай культуры, і будзем носьбітамі беларускай духоўнасці.

Не хачу, каб каталіцкі касцёл і праваслаўная царква станавіліся на калені, каб публічна каяліся, каб пракліналі ўсіх тых сваіх айцоў, якія прычыніліся да паланізацыі і русіфікацыі Беларусі. Няхай сам касцёл і сама царква знойдуць найлепшы і не прыніжаючы іх спосаб асуджэння ўсяго таго, што ў іх дзейнасці было антыбеларускім, і няхай самі ў супрацоўніцтве з новай беларускай дзяржавай знойдуць шлях павароту на грунт беларускай нацыянальнай духоўнасці. Сённяшні гістарычны момант для каталіцкага касцёла і праваслаўнай царквы вельмі спрыяльны. Гэта ж яны разам з сістэмай народнай асветы могуць стаць на чале вялікага і высакароднага працэсу перавыхавання беларусаў. Веру, што ў гэты працэс уключацца таксама уніяты і баптысты.

Усе мы грэшныя і вінаватыя перад многапакутнай Беларуссю. Многія з нас знаходзяць у сабе сілу сказаць радзіме: «прабач». Аднак, многія такой сілы і адвагі не маюць і якраз ім трэба віну прыгадаць і прымусіць аб ёй думаць.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Расія і Літва** наладзілі дыпламатычныя зносіны, нягледзячы на разыходжанні ў справе вываду савецкіх часцей з Літвы.

**Вярхоўны Савет Літвы** вырашыў правесці 14 чэрвеня рэферэндум у справе «безагаворачнага і неадкладнага вывядзення з Літвы арміі былога СССР і кампенсацыі шкодаў, учыненых гэтай арміяй».

**З тэрыторыі Украіны** ад'ехаў апошні транспарт тактычных ядзерных боегаловак былой Савецкай Арміі. Да 1994 года на Украіне будуць знаходзіцца яшчэ савецкія стратэгічныя ракеты.

На працягу некалькіх дзён на **Гомельшчыне ўспыхнула каля тысячы пажараў.** Найбольш іх было на тэрыторыі, забруджанай у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, жыхары якой даўно ўжо перасялены. Гарацьь насычаныя радыеактыўнымі рэчывамі дамы, лясы і травы, а радыеактыўны дым пераносіцца на менш забруджаную тэрыторыю.

У навучальным годзе 1992/93 у **Агульнаадукацыйным ліцэі н-р 10 у Беластоку**, вул. Звыцenства 28, будзе адкрыты першы клас з навучаннем **беларускай мовы як прадмета.** У клас прымаецца моладзь, якая жадае вывучаць родную мову.

Яшчэ ў гэтым годзе, пасля 53 гадоў можа быць вернуты ў карыстанне **водны шлях Аўгустаў - Нёман.** Міністр аховы асяроддзя запрапанаваў гродзенскім уладам сустрэчу спецыялістаў з Польшчы і Беларусі ў гэтай справе. Неабходна адбудаваць абсталяванні на Аўгустоўскім канале ў раёне граніцы і тры шлюзы на беларускім баку.

Ад сакавіка ў Беластоцкім ваяводстве **зменшваецца лік беспрацоўных.** У канцы гэтага месяца было зарэгістраваных 38,5 тыс. чалавек, а ў канцы красавіка - 34,5 тыс. Паказчык беспрацоўя знізіўся з 11 прац. на 9,7 прац. Сярод зарэгістраваных 50 прац. гэта жанчыны, а звыш 10 прац. - маладыя людзі, выпускнікі сярэдніх і вышэйшых школ.

**На беластоцкім базары** ад нейкага часу госці з-за ўсходняй мяжы прадаюць пяцікапеечныя манеты, а беластачане ахвотна іх купляюць па 400-500 злотых за штуку /за рубель у канторы плацяць 100, а на рынку - 90 зл./. Аказваецца, што варта купіць такую манету. Пасля невялікай шліфоўкі можна яе прымяняць як жэтон «С» да тэлефонаў-аўтаматаў, які каштуе 6000 зл.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Вяртанне скарбаў пагранічча - размова з Габрыеляй Паўшар-Кляноўскай.

* Жыве Беларусь! - з перспектывы двух гадоў.

* У Польска-беларускім клубе пра сённяшнюю Беларусь.

* Аб спатканні з пем'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь Вячаславам Кебічам.

* Наш гіт-парад.



### ПАТРЭБНЫ КНІГІ

Дзяржаўная бібліятэка Рэспублікі Беларусь (220636, гор. Менск, вул. Чырвонаармейская, 9) шукае наступныя выданні:

— ks. Grzegorz Sosna, Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie. Część alfabetyczna, Białystok 1984.

— ks. Grzegorz Sosna, Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie. Część chronologiczna, Białystok 1985.

— ks. Grzegorz Sosna, Wykaz hierarchii i kleru parafialnego oraz opiekunów cerkiewnych Kościoła Prawosławnego na Białostocczyźnie w l. 1839—1986, Białystok 1986.

Кніжак гэтых ужо ў продажы няма і таму звяртаемся да чытачоў за дапамогай. Калі хто захоча ахвяраваць пералічаныя выданні Дзяржаўнай бібліятэцы, можа кніжкі перадаць у нашу рэдакцыю, а мы адправім іх у Менск.

## ПАВЕДАМЛЕННІ МАБ

Міжнародны камітэт беларусістаў інфармуе, што 6 - 7 красавіка 1992 г. у Менску адбылася пасяджэнні Міжнароднага круглага стала «Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім», у якіх прынялі ўдзел, апрача беларускіх навукоўцаў, таксама ангельскія, італьянскія, польскія вучоныя. Удзельнікі пасяджэнняў прынялі «Падсумаванне», дзе сказана, што «ўсе народы, якія прымалі ўдзел у палітычным, эканамічным і культурным жыцці Вялікага княства, а найперш беларускі і літоўскі, з'яўляюцца гістарычнымі спадчыннікамі гэтай дзяржавы. Таму ёсць падставы ўжываць тэрмін для вызначэння дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага: Беларуска-Літоўскае гаспадарства». Былі ўхвалены таксама практычныя рэкамендацыі па даследаванні гісторыі часоў Вялікага княства Літоўскага ў агульнаеўрапейскім кантэксце. Зарубежныя госці наведалі Нясвіж і Мір, дзе далі слова прыкласці ўсе намаганні, каб гэтыя унікальныя комплексы ўвайшлі ў адпаведны каталог ЮНЕСКА.

Адначасова паведамляем, што ў бліжэйшых планах Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў - навуковая канферэнцыя «Адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа» /разам з Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны/ і сімпозіум «Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа ў кантэксце духоўнай культуры народаў свету» /разам з Беларускім універсітэтам/. Пройдуць яны ў час заняткаў Міжнароднай школы беларускай мовы, літаратуры і культуры, якая будзе працаваць у Менску з 1 да 25 жніўня /кошт усяго курса для студэнтаў са славянскіх краін - 50 долараў ЗША, з іншых краін - 100, для тых, хто ўжо працуе, - адпаведна - 100 і 200 долараў/.

У чэрвені МАБ ладзіць ў Пецярбургу канферэнцыю «Беларусы ў Пецярбургу - Петраградзе - Ленінградзе - Пецярбургу», у верасні - чытанні «Беларуска-літоўскае культурнае ўзаемадзеянне», прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння Зоські Верас /Вільня/. Сябры асацыяцыі прымуць чынны ўдзел у канферэнцыях у Камянцы-Падольскім /Украіна/, Любліне /Польшча/, Днях беларускай літаратуры ў Берліне і інш.

Пашыраецца выдавецкая дзейнасць МАБ. Падрыхтаваны да друку першы том «Беларусікі», дзе будуць матэрыялы Міжнароднага кангрэса беларусістаў і працы пра Ф. Скарыну. Робіцца рэпрынтныя ўзнаўленні рэдкіх выданняў. Рыхтуецца падарункавы насценны каляндар на беларускай і ангельскай мовах з выявамі экстэр'ераў і інтэр'ераў нашых святыняў. За нашым пасрэдніцтвам прымаюцца таксама заказы на ўзнаўленне «Нашай нівы» /кошт аднаго штогодніка 100 долараў/.

Урэшце трэба сказаць, што пры МАБ створана суполка «Беларуская спадчына», вакол якой яднаюцца маладыя бізнесмены. Яна зоймецца выдавецкай дзейнасцю, вырабам сувеніраў, наладжваннем дзелавых кантактаў з зарубежжам. Да суполкі прыгарнулася малое прадпрыемства «Апошняя паслуга» з Горадзеншчыны, якое можа за недарагую цану вырабіць і паставіць помнікі на магілах родзічаў нашых суайчынікаў за мяжой /з надпісамі на беларускай, літоўскай, польскай і рускай мовах/.

У бліжэйшым будучым «Беларуская спадчына» ўступіць у дзелавыя кантакты з акцыянерным таварыствам «Адраджэнне Беларусі», якое /нарэшце!/ рашылі заснаваць беларускія бізнесмены на чале са сп. Віктарам Лазарам.

**АДАМ МАЛЬДЗІС,**
прэзідэнт МАБ

*Наш адрас для кантактаў: Беларусь, 220072, Менск - 72, прасп. Скарыны, 66, п. 420.*

# МАЯ ТЭМА - ЧАЛАВЕК

*/Размова з паэткай Нінай Мацяш з Белаазёрска, што на Палессі. Спадарыня Ніна Мацяш у пачатку красавіка наведала нашу рэдакцыю./*

- Я пішу мала. У мяне няма мэты ствараць кніжкі. Я пішу толькі тады, калі мне ўжо сапраўды хочацца нешта сказаць. Мая тэма гэта чалавек, яго сэрца, яго стасункі з іншымі людзьмі, вымярэнне нейкіх духоўных каштоўнасцяў. А ўсё астатняе, што ў мяне атрымліваецца, яно атрымліваецца на мяжы маіх магчымасцяў. Я не думаю, што я не паўтараю некага - думаю, што мае вершы пераклікаюцца, можа дзесьці паўтараюць каго, але я мушу гаварыць, таму што гэта маё.

**- Вы закончылі Менскі інстытут замежных моў. Не толькі пішаце вершы, але таксама займаецеся перакладамі. Кім Вы больш сябе лічыце, паэтэсай ці перакладчыцай?**

- Я нават не ведаю, кім я больш пачуваюся, ці паэткай, ці перакладчыцай. Магу толькі сказаць - перакладаю адно тое, што блізка мне. Хачу вярнуць беларускую мову таму, што здаецца маім-маім.

**- А з якіх моў перакладаеце?**

- Асноўнай маёй мовай у вучылішчы была французская мова. З яе я і перакладаю найбольш, а мой любімы пісьменнік гэта Сан-Экзюперы. Пераклала ўжо я яго «Планету» і «Маленькага прынца», цяпер мая мара - перакласці «Крэпасць». Калі за яе вазьмуся, дык гэта будзе цяжкая праца, 600 старонак тэксту. Усё яшчэ не магу да яе падступіцца, неяк выбіла з творчай каляіны такая культурна-асветніцкая праца. У маім родным Белаазёрску стварылі мы ў 1989 годзе культурна-асветніцкую сябрыну «Агмень». Тады было гэта даволі цяжка, але і зараз яно нялёгка. І, відаць, занадта многа сіл гэта ўсё адымала.

**- У беларускай літаратуры яўна не стае перакладаў. А калі яны ёсць, дык часта праз расейскую мову.**

- Але ў нас ёсць усё-такі перакладчыкі, якія карыстаюцца першакрыніцамі. І паяўляецца іх больш. Але, зразумела, ёсць і патрэбы.

**- А ці Вы, калі перакладаеце нейкі твор, параўноваеце яго з перакладам на рускую мову?**

- Не. Звычайна не, хаця вершы - калі ёсць такая магчымасць, параўноваю потым. Каб праверыцца а не шукаць дапамогі з самага пачатку. Таму, што гэта перабівае працаваць па-свойму. Але ў апошні год я нават не перакладала. Адчувала,



ды і зараз таксама, нейкую такую душэўную стому. Я проста сядзела, вышывала, больш нічога рабіць не магла.

**- Вы самі з Палесся. З Палессем звязаны таксама такія прозвішчы ў сённяшняй беларускай літаратуры, як Алесь Разанаў, Яўгенія Янішчыц, Леанід Дранько-Майсюк. Ці не пагодзіцеся са мною, што якраз палешукі цяпер нясуць найбольшы ўклад у агульнабеларускую паэзію?**

- Ведаеце, гэта нейкія такія з'явы, можа і прыроднага характару. Нейкія такія заканамернасці бываюць, што вось ідзе пэўнымі такімі хвалямі нараджэнне, выспяванне паэтычных сябрын у пэўных рэгіёнах. Вось дзесьці 70-ыя, 80-ыя гады гэта была пара Палесся. Таму што адтуль сапраўды Жэня Янішчыц, Алесь Разанаў, Валя Коўтун, Васіль Жуковіч, Мікола Пракаповіч, Алесь Каско, Зіна Дудзюк, Рая Баравік і шмат хто яшчэ. Гэта наогул з'ява касмічна цікавая.

**- Што Вы лічыце самым істотным у сённяшняй беларускай літаратуры? Якой Вы яе хацелі б бачыць?**

* * *

У хмары бялёсай прамень патанае.
Хаця ўжо да ўлады прыйшоў красавік -
Па-над Беластокам Пан Бог вытрасае
Свой белы, ўтаньчэлы нашчэнт пухавік.

Кружляюць сняжынкі і рэдка, і вяла.
Хоць хоцькі-няхоцькі, а ўміг растаюць.
З-пад бурага лісту вясёлыя джалы
Травінак
да сэрца майго дастаюць.

Баліць, ацалелае ў зімняй аблозе,
Трапеча ў струмку зноў нясмешных надзей
- На сэнс і на сонца ў мусовай дарозе,
На неадзінотнасць яго між людзей.

Сняжынкі ў паветры. Вяснушкі на шчоках.
Астуда і ласка майго Беластоку.

НІНА МАЦЯШ
*Беласток, 30 сакавіка 1992 г.*

- Мне хацелася б, каб у нас зараз была больш духоўная паэзія, больш духоўная літаратура, таму што ўся гэтая публіцыстыка, уся гэтая сацыяльная заангажаванасць - часовыя з'явы, хутка прамінаюць. Пройдзе нейкі час - і гэта будзе цікавае толькі гісторыкам, як памятка дзён. А ці з яго застанецца нешта, каб было цікавае іншым рэгіёнам Еўропы, свету? Паэзія павінна быць менш публіцыстычная, больш філасофская. У нашых умовах патрэбнае і гэтае змаганне за мову, патрэбныя яркія словы, патрэбен Пімен Панчанка са сваёй аголенай публіцыстыкай. Але асабіста мяне гэта стаміла, мне яно непатрэбнае, мяне гэта не цікавіць. І ўвогуле дзіўная з'ява адбываецца са мною. Мне не хочацца чытаць белетрыстыку. Можа проста таму, што адбываецца нейкі духоўны паварот у самой сабе, паварот да каштоўнасцей. Я пачала знаёміцца з філасофіяй Усходу - гэта зусім іншы свет, іншае разуменне чалавечай прыроды, яго ўвогуле месца на зямлі, сэнсу існавання, сувязяў з Космасам. І мяне ўжо астатняе не цікавіць.

**- Ёсць творцы, якія пішуць выключна паводле сваіх мерак, без разліку на чытача, на друк. І ёсць людзі, якім марыцца прыцягнуць як мага больш чытачоў, патрапляюць у іх густы, ствараюць г. зв. масавую культуру...**

- Я прытрымліваюся такога пункту погляду, што ў любым выпадку не трэба арыентавацца на нейкія там густы, таму што атрымліваецца кан'юнктура. Са свайго вопыту ведаю, што гаворыш, здаецца, пра самае патаемнае, асабістае, а яно аказваецца патрэбным, зразумелым. Здавалася б, гэта толькі маё і нікому яно больш не цікава, але высвятляецца, што яно сугучна вельмі многім. Прычым, калі ўсё глыбей у сябе заглядаеш, бачыш, што твая каранёвая сістэма пераплятаецца з каранёвай сістэмай іншых - чытачы тваю ўспрымаюць як сваю. І вось гэтае асабістае, глыбока перажытае, яно і прыходзіць да чытача.

Калі ўжо разлічваць на масавага чытача, пісаць тыя ж дэтэктывы, іх трэба пісаць на ўзроўні Караткевіча, інакш атрымаецца халтура - кітч, які не прынясе карысці. Ён будзе разбураць чалавечыя душы.

**- А над чым Вы працуеце зараз?**

- Я нейкі такі спад перажываю ў апошні час. Мой апошні зборнік «Шчаслівай долю назаві» выйшаў у 1989 годзе, ад таго часу мо варта было б сабраць што-небудзь, але пакуль у мяне яшчэ малавата. Ды я на сілу і не хачу. Нядаўна выйшла кніжка паэзіі Віславы Шымборскай у маім перакладзе. На будучыню я планаў не раблю, але спадзяюся, што можа неўзабаве выйдзе мая падборка паэтаў «Плеяды». Дужа хацелася б, каб паказаўся зборнік гэтых французаў. Ну і як я ўжо казала, мая мара - узяцца за «Крэпасць».

**- А з польскіх паэтаў яшчэ каго-небудзь перакладаеце?**

- Трошачкі то Марыю Паўлікоўскую-Яснажэўскую, то Марыю Канапніцкую, але відаць, каб сур'ёзна за іх узяцца, у мяне проста не хопіць часу.

**- Я думаю, што ўсё-такі трэба спадзявацца. Жадаю Вам лепшага здароўя і шмат творчых сіл, каб Вы маглі папрацаваць хаця над тым, што лічыце самым важным і самым дарагім. Дзякую за размову.**

Гутарыў
**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# МАЛЯВАНАЯ ПАЭЗІЯ

Ольштынская паэтэса і мастачка Тамара Болдак-Яноўская /яна беларуска з Беласточчыны/ здабывае штораз большую папулярнасць у горадзе над Лынай, а сведчаць аб гэтым выстаўкі яе прац, якія арганізаваліся ў апошніх месяцах. Пад канец лютага Ваяводская педагагічная бібліятэка наладзіла ў клубе «Бакалаж» выставу яе 75 малюнкаў і 14 малых скульптур. Пасля адкрыцця выставы, якую паэтэса назвала «Бедныя малюнкі», наведвальнікі маглі ўдзельнічаць у паэтычнай сустрэчы з Тамарай і яе мужам Антонам Яноўскім.

- Я малюю сваю паэзію, выразаю яе ў дрэве. Часам адчуваю, быццам бы



*На здымках: Тамара Болдак і адна з яе прац.* **Фота З. Слясінскага.**

сто рэк уліваліся ў мяне і гэта парушае мой унутраны спакой і прымушае выказаць свой стан словам, малюнкам, разьбой, - гаворыць мастачка. - Паэзія для мяне гэта празрысты вобраз, які прыстае да маіх думак.

Творчасць Тамары Болдак-Яноўскай экспанавалася таксама ў Эканамічным тэхнікуме ў Ольштыне. Гэтым разам у канцы сакавіка адкрылася выстаўка сарака ікон, намаляваных паэтэсай. На адкрыццё прыйшлі настаўнікі і вучні гэтай школы, а таксама прадстаўнікі нашага беларускага тут асяроддзя. Сабраныя маглі паглядзець іконы і паслухаць паэтычныя творы ў выкананні аўтаркі.

Іконы Тамары Болдак-Яноўскай намаляваны з захаваннем раннехрысціянскіх канонаў, якія фарміраваліся на працягу VI-XII стагоддзяў у ваколіцах возера Ван у паўднёвай Арменіі. Яны пазбаўлены



візантыйскіх уплываў. Такі тып ікон мастачка стала маляваць нядаўна і ўпершыню паказала іх публічна. Гэтыя іконы «аздоблены» цытатамі са Свяшчэннага пісання і аўтарскім каментарыем. На іконе «Адам і Ева» можна прачытаць: «З прычыны хлусні вужовай былі мы ўжо выгнаны з раю і дзякуючы Хрысту ўвойдзем у рай».

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**




**ВЫСОКАПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ!**

Ветліва прашу змясціць на старонках Вашай газеты ад мяне дзве наступныя заўвагі-разважанні: першае адносна Беларускага календара на 1992 год, выдадзенага Галоўным праўленнем (?) Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку пад рэдакцыяй Ніны Баршчэўскай; а другое — што тычыцца артыкула Аляксандра Баршчэўскага пад загалоўкам: „Размова аб мінулым і будучым" (гл. „Ніва" н-р 11 ад 15 сакавіка 1992 г.).

Што тычыцца першае заўвагі, дык хачу сказаць аб храналогіі гістарычных падзеяў, пададзеных на кожны месяц.

Пераглядаючы там даты розных гістарычных падзеяў, я заўважыў, што маса гістарычных датаў, звязаных з беларускай гісторыяй, блішчаць адсутнасцю. Прызнаюся, што не заўважыў я, што даты, пададзеныя ў календары, ёсць юбілейнага характару, г. зн. датычаць гадоў, канчаючыхся на „два", паколькі каляндар на 1992 год.

Усё ж у мяне паўстала пытанне: ці не варта было б некаторыя важныя факты нашае гісторыі падаваць кожны год? Вось хаця б проста з памяці: розныя даты, звязаныя з Вялікім Княствам Літоўскім; Паўстанне 1863 г. (Кастусь Каліноўскі); 25 Сакавіка 1918 г. — абвяшчэнне Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР); 27 лістапада 1920 г. — Слуцкае паўстанне; 27 ліпеня 1990 г. — абвяшчэнне Суверэннасці Беларусі; 25 жніўня 1991 г. — абвяшчэнне Незалежнасці Рэспублікі Беларусь і г.д. Вельмі важна таксама падаваць даты, якія тычацца нашых знамянітых людзей і адраджэнцаў, прыкладам Фр. Скарыны; Вітаўта, вялікага князя літоўскага; Фр. Багушэвіча; Ядвігіна Ш.; В. Дуніна-Марцінкевіча; М. Багдановіча і шмат іншых.

На маю думку, усё гэта вельмі важна для усведамлення нашае моладзі аб нашай гісторыі, аб нашых карэннях, адкуль мы паходзім, што мы прадстаўляем, наша змаганне за незалежнасць і г.д.

Адным словам, трэба паказаць, што мы маем сваю гісторыю, што мы не штучна створаная нацыя, як „даказвае" Helene Carrera d'Encausse ў сваёй кніжцы „L'Emire eclate" (Разарваная імперыя), што Беларусь і ейная мова — штучна створаныя бальшавікамі пасля рэвалюцыі 1917 г.

Думаю таксама, што сем датаў адносна „Айчыннай" (?) вайны Расеі супраць нашэсця войск Напалеона I — зашмат. Увесь свет аб гэтым падае, а ў асаблівасці расейцы. Перамога гэтая для Беларусі нічога асаблівага не дала, акрамя большага прыгнёту з боку расейцаў.

Заўвага мая да артыкула спадара Баршчэўскага ёсць наступнага характару. Па-першае, мне проста не да зразумення пачуць, што карэспандэнт прафесара Баршчэўскага, называючы сябе беларусам, чытае „Ніву" і звяртаецца на польскай мове. Пытанне маё: чаму так, ці таму, што польская мова больш «культурная» як наша беларуская, якую калісь (сам быў сведкам), да 1939 г. у Заходняй Беларусі палякі называлі „хамскай", а ў найлепшым выпадку „хлопскай"?

*працяг на стар. 8*



# ЧАРГОВЫ ТОМ ПРАВАСЛАЎНАЙ БІБЛІЯГРАФІІ

Людзі, якія па рознай прычыне займаюцца праблематыкай Праваслаўнай царквы на Беласточчыне, добра ведаюць, якую вартасць, як крыніцы ведаў, прадстаўляюць тры тамы „Bibliografii parafii prawosławnych na Białostocczyźnie", апрацаваныя а. Рыгорам Сасной з Рыбалаў і выдадзеныя ў гадах 1984—1986. Я без аніякага пераацэньвання магу сказаць, што каб не гіганцкая праца айца Рыгора (тутака трэба ўспомніць і пра яго нарысы па гісторыі праваслаўных прыходаў, якія паяўляюцца ў „Wiadomościach Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego", „Ніве" ці „Tygodniku Podlaskim", а цяпер — у „Przeglądzie Prawosławnym") ніводзін з даследчыкаў не мог бы зрабіць нават паўкроку. Айцец Рыгор з'яўляецца тым, хто працёр шляхі для ўсіх, хто хоча пазнаваць мінулае і сённяшні дзень праваслаўя на Беласточчыне.

І вось нядаўна а. Рыгор уцешыў нас яшчэ адным томам бібліяграфіі*). З дапамогай Камісіі апекі над помнікамі старадаўнасці Варшаўскай праваслаўнай мітраполіі, БГКТ, сп.. Пятра Кажуры і беларусаў з ЗША, выдаў ён дапаўненне да алфавітнай часткі „Бібліяграфіі праваслаўных прыходаў на Беласточчыне", якая выйшла ў свет у 1984 г. Добра сказаць — дапаўненне! Яно ж больш абшырнае, чым галоўны том — ахоплівае аж 3.885 пазіцый, паводле нумараў 2.182—6.066.

Аўтар называе на гэты раз пераважна публікацыі, якія былі надрукаваны пасля II сусветнай вайны, але не абмінае таксама і тыя, якія былі надрукаваны раней, нават пры канцы XIX ст., а якіх не назваў у першым томе. Часта падаюцца, як крыніцы, „Ніва", „Беларускі каляндар", „Православный календарь", „Церковный вестник", а са старэйшых — „Литовские..." ці „Гродненские епархиальные ведомости". Вельмі шмат публікацый Р. Сасна вышукаў у надта рэдкіх, малатыражных, аказійных ці замежных выданнях, пра якія мала хто і чуў. Напрыклад, ці шмат хто з нас ведае, што выходзяць такія часопісы, як „Helsinhin Sanomat", „Aamun Koitto", „Tuohustuli", „Uskon Viesti"? Скрупулёзнасць не дазволіла бібліёграфу абмінуць і такія пазіцыі, як карты, на якіх зазначаны цэрквы, улікавыя дакументацыі праваслаўных могільнікаў, выкананыя па заказу Бюро даследаванняў і дакументацыі помнікаў старадаўнасці ці Ваяводскага захавальніка помнікаў старадаўнасці ў Беластоку, тапаграфічныя планы, выкананыя інж. Барыславам Ф. Рудкоўскім для царкоўных архіваў у бельскіх прыходах, а нават паштоўкі з праваслаўнымі аб'ектамі ці малюнкі тых жа аб'ектаў, змешчаныя ў розных крыніцах. Пры многіх пазіцыях даюцца аўтарам пafметкі, якія ўдакладняюць змест публікацый. У томе называюцца таксама публікацыі, якія ўскосна датычаць праваслаўя. Гэта важнейшыя матэрыялы пра зямлю і людзей праваслаўнага веравызнання на Беласточчыне.




Бібліяграфія мае два індэксы — асабовы і геаграфічны. Асноўную частку папярэджваюць дзякаванні аўтара спонсарам, уводзіны пяра д-ра Антона Мірановіча (на польскай, беларускай і англійскай мовах) і спіскі скарачэнняў часцей называных крыніц і іншых ужываных у бібліяграфіі скарачэнняў. На ўнутраных бачынах вокладак даюцца планы: ваколіц Рыбалаў і размяшчэння мясцовасцей у Беластоцкім ваяводстве, у якіх знаходзяцца зараз ці знаходзіліся раней праваслаўныя манастыры, цэрквы і каплічкі. Сама бібліяграфія мае 297 старонак. Тыраж не падаецца. Том надрукавала Выдавецка-паліграфічная суполка „Orthdruk", што ў Беластоку. У вочы кідаецца на многа больш элегантнае выданне, чым у выпадку трох папярэдніх тамоў. У тэксце, на жаль, здараюцца друкарскія памылкі, але яны не ў змозе пашкодзіць вялікай каштоўнасці гэтага выдання.

**ПЁТР БАЙКО**

*) Ks. Grzegorz Sosna, Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie. Część alfabetyczna. Suplement nr 1, Ryboły 1991 r., str. 297, ilustr., ma.pki.

# НАШЫ КАРАНІ

## XXXIV. ВІЛЕНСКІЯ ВЕЛІКАМУЧАНІКІ

У часе, калі вялікі князь Альгерд акружыўся паганамі, пры іх дапамозе здабыў Віленскае княства і пад іх уздзеяннем паступіўся ў вернасці Праваслаўю, у яго служылі два родныя браты Кумець і Няжыла. Гэта былі вельмі блізкія князю беларускія баяры, княжацкія любімцы. Яны вылучаліся мудрасцю, мужнасцю, прыстойнымі паводзінамі. Духаўнік памерлай Альгердавай жонкі, вялікай княгіні віцебскай Марыі Яраслаўны, прападобны Нестар ахрысціў іх па праваслаўнаму абраду; Кумець прыняў хроснае імя Антоній, а Няжыла - Іаан. Браты строга выконвалі ўсе ўстаноўленыя Праваслаўнаю Царквою наказы. Яны перасталі пакланяцца язычаскім багам і прыносіць ім ахвяры.

Паганскія жрацы-ведзьмары паскардзіліся на братоў князю, і той, пераменіўшы любоў на жорсткую нянавісць, загадаў укінуць іх у сырое падзямелле ды марыць голадам. Пакутнікі ў лёху знаходзіліся ўвесь год. Да іх наведваліся паганскія жрацы і намаўлялі адмовіцца ад хрысціянства. Старэйшы брат Іаан не вытрымаў пакутаў і згадзіўся выконваць паганскія абрады, але ў душы ад Праваслаўя не адступіўся. Разам з ім з турмы Альгерд выпусціў і Антонія, спадзеючыся, што і ён вернецца ў паганства. Аднак, Антоній не пахіснуўся ў веры і паводзіў сябе на волі як стойкі хрысціянін. Яго зноў укінулі ў лёх. Пад уздзеяннем прападобнага Нестара ды ідучы за прыкладам брата, Іаан таксама стаў адкрыта вызнаваць сваю веру ў Хрыста. Яго бязлітасна скатавалі і ўкінулі ў склеп да Антонія. Браты разам сталі славіць Госпада і прапаведаваць навукі Хрыста іншым вязням. Іх стойкасці ў веры дзіваваліся нават пагане; патаемна штораз болей людзей стала наведваць братоў і ў выніку размоваў з імі прымала святое хрышчэнне. Гэта раз'юшыла язычаскіх жрацоў, і яны паскардзіліся Альгерду. Князь выдаў братоў на здзекі язычнікам, і тыя вывалаклі мучанікаў з лёху. Спачатку накінуліся на Антонія і, па-зверску скатаваўшы яго, павесілі на дубе. Учынілі тое на вачах Іаана, спадзеючыся, што ён зноў пахіснецца ў веры. Аднак Іаан не адступіўся ад Хрыста. Раз'ятраныя пагане, скатаваўшы, задушылі яго і цела павесілі побач з братам.

Пад уражаннем подзвігу святых Антонія і Іаана прыняў хрышчэнне іхні малады, прыстойны родзіч, таксама Альгердаў любімец Круглец. Ён прыняў ад прападобнага Нестара хроснае імя Яўстафій. Юнак не скрываў свае веры, паводзіў сябе як праўдзівы хрысціянскі рыцар, і Альгерд аддаў яго таксама на здзекі язычнікам. Тыя перабілі яму косці ног ад ступняў да каленяў і загадалі хадзіць і ён хадзіў, адрэзалі вушы і нос, жыўцом здзерлі з галавы валасы разам са скурай, затым павесілі на тым жа дубе, што і Антонія з Іаанам. Праваслаўныя выпрасілі ў Альгерда астанкі святых мучанікаў і пахавалі іх у царкве свяціцеля Мікалая. Паданне кажа, што ў пахаванні велікамучанікаў удзельнічалі Альгердавы сыны. Яны ж былі праваслаўнымі хрысціянамі і разам з праваслаўнымі віленцамі аплаквалі ахвяры язычаскага цемрашальства.

Гэтак у 1347 годзе зямля Беларускае дзяржавы /Вялікага княства Літоўскага/ была скроплена нявіннай крывёю праваслаўных веліка- мучанікаў. Велічны подзвіг трох беларускіх баяраў - рыцараў веры Хрыстовай - ускалыхнуў увесь тадышні праваслаўны свет. Усюды разышліся звесткі пра іхнюю велікамучаніцкую смерць. Далучыў іх да ліку святых сам патрыярх канстанцінопальскі Філафей у 1374 г.

Памяць віленскіх велікамучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія наша Царква ўшаноўвае ў кожным набажэнстве, а ўрачыста адзначае 14 /27 па новаму стылю/ красавіка.

Варта ведаць, што на тым пагорку, дзе прынялі велікамучаніцкую смерць Антоній, Іаан і Яўстафій, другая жонка Альгерда, вялікая княгіня цвярская Ульяна пабудавала праваслаўны храм Святое Тройцы з манастыром, які адыграў выдатную ролю ў гісторыі беларускай культуры. Пры ім у XVI-XVII ст.ст. дзейнічала славутае Свята-Троіцкае брацтва, якое вяло на высокім узроўні школу і друкарню. Тут гуртаваліся знакамітыя творцы беларускай праваслаўнай духоўнай культуры і стойкія абаронцы Праваслаўнае Царквы.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# ВЫРАТАВАЦЦА АД ЭКАНАМІЧНАЙ КАТАСТРОФЫ

працяг са стар. 1

можна купіць лепшы трактар або таннейшае мінеральнае ўгнаенне.

Аднаму проста не падсілу, таму і людзі гуртуюцца. Ну, а гурткі павінны супрацоўнічаць між сабою. «І мы гатовы выконваць ролю такога пасрэдніка, каардынатара, - гаворыць З. Ліпскі, - толькі мы не збіраемся нікога ашчаслівіваць сілком. Я лічу, што ініцыятыва павінна выходзіць знізу. Мы можам дапамагаць, раіць, але не кіраваць гаспадарамі. Час загадаў зверху, з цэнтра ўжо скончыўся».

культывацыя глебы каштавацьме дзесьці 120 тысяч злотых за гадзіну. Гэта, пасля апошняга падаражання паліва, настолькі танна, што за паслугамі прыходзяць нават тыя, у каго свой трактар. Бяда толькі, што і на гэтыя невялікія аплаты людзям не хапае грошай. Гаспадары на сённяшні дзень вінаватыя ласінскаму кулку звыш 30-ці мільёнаў.

Найбольшыя спадзяванні К. Пракапюк ускладвае на апырскванне раслін і жніво. Гаспадарам не аплочваецца самім купляць хімічныя сродкі ды не так шмат яшчэ прыватных камбайнаў.

Дрэннае тое, што няма дзе рабіць



*Кіраўнік кулка ў Ласінцы К. Пракапюк і член праўлення М. Селеванюк рамантуюць дыскавую барану.*

Кулка ў Ласінцы якськці перачакала бясчынную зімовую пару. Людзі не збіраюцца складаць рук і на прадвесні. Рыхтуюць машыны, робяць планы на лета.

Калі я там быў /пачатак красавіка/, цэнніка палявых прац яшчэ не было, але праўленне парабіла ўжо свае калькуляцыі. Ворыва, баранаванне і большыя рамонты машын. Раней генеральныя перагляды машын рабіў нараўскі ПОМ, але цяпер жа яго не стала. Менш складаныя рамонты працаўнікі правядуць і самі, але вось менавіта з тымі генеральнымі бяда. А яны ўсё больш будуць патрэбныя, бо машыны старэюць - на новыя ж няма сродкаў. Калісьці рэгулярна стараліся мяняць машыны на новыя, штогод куплялі адзін-два трактары і шчэ тое-сёе да іх. Таму тады не псавалася ўсё так хутка. Як будзе цяпер, пабачым, кажуць К. Пракапюк і М. Селеванюк, адно вядома, што за працу трэба брацца ўжо.

Здзіслаў Ліпскі: «Настаў цяжкі час для гаспадаркі ўсяе Польшчы, а што ўжо казаць пра ўсходнюю Беласточчыну. Гэтая зямля заўсёды была дыскрымінаваная. Камуністы толькі абяцалі, але даць нічога не далі. А цяпер гэтая зямля падзе, бо не вытрымае эканамічнай канкурэнцыі. Не трэба тут ніякіх палітычных рэстрыкцый. Таму сваёй галоўнай мэтай лічым эканамічную абарону гаспадароў. Якраз дзеля гэтага гурткі і былі створаны.

Не любіла нас папярэдняя ўлада, бо кулкі былі галоўнай перашкодай на дарозе да калектывізацыі. Адзіны спрыяльны перыяд нашай дзейнасці гэта быў час ад 1956 года да пачатку 70-тых гадоў. Тады ў кулках бурліла жыццё, ладзіліся сходы, вяліся дыскусіі, купляліся машыны за вясковыя грошы. А потым пачалі нас цэнтралізаваць, уводзіць бухгалтэрыю, чыноўнікаў. З паасобных кулак стварылі МБМы /Miedzykółkowe Bazy Maszynowe/, затым СКРы /Spółdzielnie Kółek Rolniczych/. Адным словам, стараліся гэтыя кааператыўныя гурткі адсунуць як найдалей ад селяніна.

А цяпер новыя ўлады глядзяць на гурткі як на рэлікт мінулай эпохі. Мы, аднак, на гэта не зважаем - прапануем гаспадарам свае веды і дасведчанне. Лічым, што гаспадары павінны, нават мусяць аб'ядноўвацца - не абавязкова ў кулках, можна гэтыя гурткі самапомачы назваць як хто хоча, - бо няма іншага выйсця. Я думаю, што асабліва ў рэгіёне такім, як наш - эканамічна вельмі слабым - нельга лёгкай рукой адмаўляцца ад любога спосабу выратавання. Не выкарыстаць нашы магчымасці было б проста грэхам».

Вёску чакае нялёгкі не зусім вядомы час. Гэта я чуў і ў Ласінцы, і ў Беластоку. Аднак, рэцэпт на будучыню ў кожнага свой і не заўсёды такі самы. Не мне тут прарочыць, у каго лепшы, чыя дарога дасць эфект. Не адважуся таксама спекуляваць, хто каму паможа выжыць - ваяводскае праўленне вясковым кулкам, ці наадварот. Хто каго можа выратаваць?

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

**Фота аўтара**



*На пляцы ласінскага кулка.*

Піражкі з макам

# Я-Б-Ч або Finita est comedia

Пасля адкрыцця рухаючай сілы песеннага элемента ў працэсе станаўлення макатранскай еднасці, якое я зрабіў на валасным „Бай-люлі", не маю душэўнага спакою. Столькі ў нас патрыятычнага стогну, столькі мучанікаў за народ, а кожны прарок толькі свой аршын бачыць.

Змяніце, праведнікі, заіграныя пласцінкі, цьмяныя мэты, настаўце разрозненыя рупары на макатратон і ўключыце святло на валасным памосце. Чаму б вам не спець, чаму хорам не загудзець?

Ну, хай хор — недасяжная даль. Можа, тады задаволімся трыо. Як вам, напрыклад, падабаецца рык-гурт „Я-Б-Ч"? У здагадках вы майстры, раскрылі шыфр: Сакрат Яновіч, Аляксандр Баршчэўскі, Яўген Чыквін. Не ўяўляеце іх у гэткай ролі? Я таксама. Але памарыць можам.

З чаго пачнем? Рэпертуар... Вось дзе загваздка! Які прымірэнчы тон задасць Яновіч Баршчэўскаму? Дробязь. „Камісар" пачынае партыю з падхалімскім прытупам:

*Ты адзін,*
*І я адзін.*
*Гора адзінокім!*
*Куды ні кінь —*
*Усюды клін,*
*Злосць вылазіць бокам.*

*Надакучыў я табе,*
*Клікаў у адстаўку.*
*Як уцерціся ў давер?*
*Фіміямам даўнім?*
*Ты палкоўнік,*
*А я танк,*
*Даруй невідушчаму,*
*Працярэбім Макатру,*
*Выцярэбім рушчыну!*

„Б", усхваляваны, хапае прабуджанага „Я" ў абдымкі:

*Сакраце Яновіч,*
*Сакраце Яновіч,*
*Цябе добры лёс*
*Падарыў нечакана.*
*Цвяроза ты мовіш,*
*У наступ, Сакраце,*
*Дружыннікў мой*
*І па славе браце.*

А што робіць „Ч"? Спявае „Вячэрні звон". На памост плаўна ўваходзяць бязбацькавічы і басуюць: — Бом, бом, бом!..

Трыо атрымалася даволі дыскусійнае, кожны спяваў сваё, але, як прыкмеціў Пірог-Дацэнтовіч, які прысутнічаў на рэпетыцыі, ёсць пробліск надзеі.

Затое фінальную „Бай-люлі" на новы лад гурт выконвае дружна, з уздымам. Урачыста ліецца па родным прасторы выпакутаваная мроя:

*Мы — макатранцы*
*ужо не пад МУСам,*
*к шчасцю з МІНКУЛЬТам*
*шукаем дарог.*
*У бойках*
*за бел-пірагійскую долю*
*горда нясем мы*
*сцяг перамог!*

*Нас аб'яднала*
*князева імя,*
*Сонейка*
*ў вабны*
*вядзе нас паход.*
*Сонейку слава!*
*Слава дружыне!*
*Слава табе,*
*паслухмяны народ!*

*Сілы гартуем*
*у сэрцаў хвалі,*
*у дружнай суполцы*
*не будзе бяды!*
*З вечнапакрыўджаных*
*вольнымі сталі.*
*Жыве наша брацтва!*
*Шчыльней рады!*

Гэта — мара. Постлетуценны будзень нясе мінорную трохгучнасць. „Я" чуйным вухам ловіць нейкія трыумфальныя фанфары і ўсё больш углыбляецца ў сябе. „Б", абгадзіўшы магілу прыёмнага бацькі таварыша Маўзера, нацягае на аголены азадак пазычаныя ў музеі галіфэ царскага палкоўніка і настальгічна напявае „Белую акацыю". З-за плоту яхідна хіхікаюць жаўтаротыя бязбацькавічы. На асветленым пятачку з'яўляецца таямнічы Дон Пэдра. Karramba! Гэта ж Віктар Стахвюк! Увесь у чорным: капялюш з шырокімі абвіслымі палямі, смаліста-чараўніцкая бародка, доўгі як сутана плашч. Блудны прывід вымаўляе клятвенную фразу: „Зашнурую свае вусны, заморажу сваё сэрца" і расплываецца. „Ч" цягне набалелую песню. Выдаліўшы з дэпутацкіх грудзей апошняе „бом", едзе на яснапалійскае веча з дакладам аб грэшных тэндэнцыях на макатранскім пасадзе.

— Plaudite, cives, plaudite, amici, finita est comedia, - гаворыць пан Мацюк і перакладае: — Пляскайце ў далоні, сябры, камедыя закончана.

**СІДАР МАКАЦЁР**

# „НІВА” І ЕЙНЫЯ ДАБРАДЗЕІ

працяг са стар. 1

пасаду Янку Целушэцкага, без аніякай кансультацыі з рэдакцыйным калектывам. Калектыў з такім рашэннем не пагадзіўся, а калі Янка Целушэцкі пачаў палохаць дысцыплінарнымі звальненнямі і пракурорам, калектыў папрасіў яго пакінуць рэдакцыю.

«Ніву» мы робім на «сарганізаваных» камп'ютэрах. Яе будучыню бачым, як незалежную газету. Трэба гэта як найхутчэй законна ўнармаваць і выбраць новага галоўнага рэдактара, паколькі свайго рашэння пайсці ў адстаўку я не змяніў, а выконваю цяпер гэтыя абавязкі на просьбу калектыву да часу выяснення сітуацыі.

**Ян Максімюк:** «Ніва» ад часу, калі развалілася РСВ, не прыналежыць нікому. БГКТ не мае ніякага права ані на загаловак, ані на ўласнасць. Не мае таксама права назначаць галоўнага рэдактара. У будучыні хочам выдаваць нашу газету як незалежную, пры Асацыяцыі беларускіх журналістаў. Зможам гэта рабіць за тыя ж сродкі - забранне камп'ютэраў адмоўна адбілася толькі на варунках нашай працы, але не паўплывае на павышэнне кошту выдання.

### НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ– ФАЛЬШЫВЫ ЛОЗУНГ

**Аляксандр Баршчэўскі** /старшыня ГП БГКТ/: «Ніва» - гэта наш орган ад 1956 года, ад самага ўзнікнення Таварыства. Ці можна ў нас яго забраць? Не ведаю, што законы пра гэта гавораць. Беларускае Таварыства ніколі не было агрэсіўным, хаця «Ніва» яго крытыкуе. Доказам плюралізму і свабоды абмену поглядамі ўнутры БГКТ могуць паслужыць «органы» /sic!/ розных арганізацый, якія знайшлі месца ў «Ніве»: «Зорка», «Прысутнасць», «Белавежа». Няпраўду сказаў Віталь Луба, што хацелі мы звальняць журналістаў - мы хацелі толькі перасунуць Аляксандра Максімюка на карэкту. Мы разумеем змены ў нашай краіне і выходзім ім насустрач.

**Янка Сычэўскі:** «Ніва» падкопвае польскую «рацыю стану» - крытыкуе вынікі афіцыйнага візіту беларускіх міністраў на запрашэнне польскага ўрада. Да «Нівы» маюць прэтэнзію архіепіскап Сава і пасол Яўген Чыквін. Галоўны рэдактар хлусіць, што пускаў усе матэрыялы Таварыства - хіба, што яму памяць адняло. Графічны рэдактар крычаў на нас, на членаў Прэзідыума ГП, у прысутнасці сведкаў. Ёсць сігналы з асяроддзя, - гавораць па вёсках і мястэчках - што «Ніва» не цікавіцца іхнім жыццём, журналісты не прыязджаюць, не пагавораць. Праз непарадкі ў рэдакцыі даносілі нам самі працаўнікі, але потым чамусьці змянілі свой пункт погляду - відаць пад уплывам псіхічнага націску.



*Прадстаўнікі Міністэрства: Яцэк Руцінскі і Багуміла Бэрдыхоўская.*

Янка Целушэцкі не быў назначаны галоўным рэдактарам, а дэмакратычна выбраны. Калі г.зв. фальшывая дэмакратыя давядзе да выбару новага галоўнага рэдактара, гэтыя асобы, якія карыстаюцца псіхічным тэрорам у рэдакцыі, не дадуць публікаваць аб'ектыўныя матэрыялы пра Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Я за тым, каб камп'ютэры - варштат працы рэдакцыі - вярнуліся на месца, на вул. Сураскую. І яны вернуцца, як толькі будуць там адпаведныя варункі.

Спадарыня Бэрдыхоўская запытала, што абазначаюць гэтыя нармальныя варункі. Янка Сычэўскі гэтага не выясніў, адно назваў ненармальнымі тыя, калі хтосьці на камп'ютэрах набівае грошы ў сваю кішэню.

### ПАЗІЦЫЯ ГРАМАДСКАГА КАМІТЭТА ПАБУДОВЫ БЕЛАРУСКАГА МУЗЕЯ

**Канстанцін Майсеня:** Музей будуецца і Міністэрства павінна арганізаваць нам 6 штатаў. Камп'ютэры павінны служыць дарогу, стараліся разбіць «Ніву». Я думаю, што галоўны рэдактар тыднёвіка павінен выбірацца Прэзідыумам ГП БГКТ у згодзе з рэдакцыйным калектывам.

### РЭДАКЦЫЙНЫ КАЛЕКТЫЎ ПАВІНЕН ВЫДАВАЦЬ «НІВУ», А БГКТ ЗАЙМАЦЦА КУЛЬТУРНАЙ ДЗЕЙНАСЦЮ,

сказаў старшыня Звязу беларускай моладзі Марко Заброцкі ды ўпэўніўся яшчэ: «Ці ясна я выказаў сваю думку?» Аж надта, быў адказ Багумілы Бэрдыхоўскай.

Такую пазіцыю занялі ўсе арганізацыі, якія ўтвараюць Раду беларускіх арганізацыяў. Ад іхняга імя выступілі: Алег Латышонак /Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне/, Барбара Кучынская /Беларускае аб'яднанне студэнтаў/, Юрка Хмялеўскі /Асацыяцыя беларускіх журналістаў/, Пётр Крук /Беларускі выбарчы камітэт/ і Ян Чыквін /Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа»/. А старшыня Рады беларускіх арганізацыяў Пётр Юшчук факт захопу камп'ютэраў назваў не толькі афёрным, але і падлягаючым судоваму вырашэнню. Прадставіў ён таксама прапанову развязкі з юрыдычнага пункту гледжання - «Ніва» мае быць самастойным «юрыдычным ліцом»

### ДЗЕЛЯ ЧАГО МЫ ТУТ САБРАЛІСЯ?

Каб судзіць Таварыства - палымяна даказвала Валянціна Ласкевіч і пытала: якім правам, якім правам людзі, што прапрацавалі год-два ў «Ніве» і нічога не зрабілі для беларускай справы, могуць выносіць прысуд над Таварыствам? Якому асяроддзю служыць «Ніва»? Беларуская грамадскасць яшчэ абудзіцца і выкажа свой погляд, толькі было б лепш, каб так не сталася.

Ніхто тут не збіраецца судзіць Таварыства, нам трэба толькі вырашыць лёс «Нівы», супакойвала Багуміла Бэрдыхоўская.

**Аляксандр Баршчэўскі:** Усе тут дамагаюцца як найхутчэйшага

# БУДЗЕ „НОВЫ” ЛІЦЭЙ

працяг са стар. 1

ем пабудову. Новы будынак - справа для нас першаступеннай важнасці і я перакананы, што мы з гэтым справімся. Хачу тут яшчэ адзначыць, што спатрэбіцца нам дапамога Гайнаўкі як горада...

**- Ці гарадская ўправа ў Гайнаўцы праяўляе зацікаўленасць лёсам ліцэя, бо ж неабходнасць у новым памяшканні для школы вядомая грамадскасці не ад учора?**

**Я. Сачко:** Я з бурмістрам у гэтай справе яшчэ не гаварыў, але размовы такія праводзіў мой папярэднік. Бурмістр адказаў, што зараз сродкаў на беларускі ліцэй няма - гарадская ўправа будзе фінансаваць пабудову пачатковай школы ў квартале Мазуры.

**-Ці акрамя пабудовы новага будынка вырысаваліся Вам ужо нейкія іншыя справы, на якія Вы як дырэктар павінны ставіць націск?**

**Я. Сачко:** Справай такой з'яўляецца напоўна набор кандыдатаў. У 1992/93 навучальным годзе задумалі мы адчыніць тры раўналежныя класы - дзеля гэтага патрэбна каля 90 вучняў. Што ж, кандыдатаў трэба сабе прыдбаць - рабіў гэта Васіль Дамброўскі, раблю гэта і я. Даводзіцца хадзіць у пачатковыя школы ды захваляць перад васьмікласнікамі наш ліцэй. Сама важна аднак, што маем чым заахвоціць - у ліцэі высокі ўзровень выкладання замежных моў, ангельскай і нямецкай, займаюцца гэтым знакамітыя спецыялісты, а да таго ж, навучанне ангельскай і нямецкай моў адбываецца ў пашыраным плане, пяць гадзін у тыдзень - гэта болей, чым у іншых ліцэях. Іншай заахвотай паступіць у наш ліцэй можа быць і тое, што нашы выпускнікі маюць магчымасць працягваць сваю адукацыю ў вучэльнях Беларусі. Пэўным клопатам у гэтым годзе можа аказацца для нас матуральны экзамен - упершыню будуць пісаць яго тры класы, няма дзеля гэтага адпаведна вялікай залы, а неяк арганізавацца трэба ж.

**-Набліжаюцца матуральныя экзамены, а заадно і пара вызначыць напрамак далейшай адукацыі. Цікава было б пачуць, якія факультэты выбіраюць сабе выпускнікі.**



**Я. Сачко:** Агульна можна сказаць, што дамінуюць гуманістычныя кірункі - гэта ўжо такая традыцыя ў нашым ліцэі. На матэматыку, ці фізіку рашаюцца ўсяго адзінкі. Як я ўжо сказаў раней, нашы вучні маюць магчымасць паступаць у вучэльні Беларусі. Сёлета, як і ў мінулым годзе, выбіраецца туды група моладзі - агулам 24 асобы. Будуць яны вучыцца ва універсітэтах у Гародні і Менску на такіх факультэтах, як фізічная культура, нямецкая мова /9 асоб!/, стаматалогія, медыцына, пачатковае навучанне, беларуская філалогія і гісторыя мастацтва.

**- Якія ўмовы трэба задаволіць вучню дзеля далейшай яго адукацыі ў Беларусі менавіта?**

**Я. Сачко:** Неабходная сярэдняя ацэнка прынамсі 3,6, з напрамкавых прадметаў - найвышэйшая альбо зараз каля гэтага, ды здадзены матуральны экзамен па беларускай мове. Мушу тут аднак, дзеля справядлівасці, успомніць пра пэўныя нягоды вучобы ў Беларусі, агульная прычына якіх у тым, што наш студэнт не мае там яшчэ свайго статусу. Студэнт з Беласточчыны не карыстаецца льготамі ў сродках транспарту, ягоная стыпендыя меншая, чым мясцовага студэнта. Білет з Беларусі ў Польшчу зараз больш каштуе, чымсьці ў другі бок, а да сям'і ездзіць кожны ж хоча. Да ўсяго гэтага яшчэ тыя няшчасныя мытні, а там - ці ж нехта будзе трактаваць студэнта на асаблівых прынцыпах?

**- На заканчэнне хачу яшчэ вярнуцца да набору кандыдатаў. Прымаеце ў ліцэй таксама вучняў, якія не вывучалі раней беларускай мовы?**

**Я. Сачко:** Так, прымаем нягледзячы на гэту акалічнасць. Калі б, аднак, нашы вучні мелі ўжо ў

 

вырашэння, а я прасіў бы не спяшацца, задумацца.

Валянціна Ласкевіч прапанавала, каб далейшы лёс «Нівы» вырашыў з'езд БГКТ, які плануецца ўвосень гэтага года. Мы не павінны дыскутаваць між сабою, мы павінны засярodзіцца на лепшым выданні «Нівы», сказала В.Ласкевіч.

**ХТО ТУТ ХЛУСІЦЬ, А ХТО ЗДЭНАЦЫЯНАЛІЗАВАЎСЯ?**

**Аляксандр Баршчэўскі:** Няма патрэбы сілком яднацца. Ёсць дзве беларускія структуры і дзве газеты /sic!/ - трэба імі проста падзяліцца. «Ніва» хай будзе ўласнасцю БГКТ, а другая газета, якая з'яўляецца органам партыйнай групы, няхай будзе ўласнасцю БДА.

**Юрка Каліна:** Пра якую другую газету і палітычную групоўку гаворыць А.Баршчэўскі? «Часопіс», па-першае, не з'яўляецца газетай, па-другое, каб быў органам якое-колечы партыі, не атрымаў бы ад міністэрства датацыі. А калі хто тут закідае нам хлусню, дык трэба пісаць абвяржэнні або падаваць заяўку ў суд. Ні першага, ні другога мы не прычакалі, а значыць не маем патрэбы адчуваць сябе лгунамі.

Лгуном затое Валянціна Ласкевіч назвала Барбару Кучынскую, якая сказала, што кіраўніцтва БГКТ патрабавала ад БАСу аплаты за залу на з'езд Аб'яднання. Напэўна ні я, ні пан Сычэўскі вам такога не сказалі, клялася спадарыня Ласкевіч. Калі Барбара Кучынская сказала, што мае нават на пісьме гэтае рашэнне БГКТ, тады Валянціна Ласкевіч з характэрнай ёй прываблівай шчырасцю запытала: а за што мы мелі аплочваць чынш?

Дыскусіі прыслухоўваўся юрысканcультант Таварыства Януш Альшэўскі. Урэшце і ён папрасіў слова. Прадставіўся як чалавек звонку беларускага асяроддзя, але добра знаёмы з ім і яго праблемамі. Я не говорю по-белорусски, но говорю по-русски, пачаў ён, але бобу задаў ужо па-польску: Jesteście państwo kompletnie wynarodowieni... Дакончыць не дала яму спадарыня Бэрдыхоўская.

**ШТО ТАКОЕ ПАРТЫЯ І ШТО ЯНА МОЖА**

Пасля перапынку Багуміла Бэрдыхоўская запрапанавала такую развязку: усе беларускія арганізацыі сустрэнуцца як найхутчэй і створаць Праграмную раду тыднёвіка «Ніва». У міжчасе рэдакцыйны калектыў створыць свой унутраны статут, галоўным пунктам якога будзе свабода слова і гарантаваны доступ да старонак газеты ўсіх поглядаў у беларускім асяроддзі. Калектыў «Нівы» прапанаваў бы кандыдата на галоўнага рэдактара, а зацвярджала б яго якраз Праграмная рада. „Трэба прыняць да ведама, што „Ніва" не з'яўляецца ўласнасцю БГКТ і нават гаварыць з палітычнай партыяй.

**Алег Латышонак:** Спадар Баршчэўскі, і мая, і ваша арганізацыя займаецца палітычнымі акцыямі, напр. удзел у выбарах. Розніца між намі такая, што вы бярэце грошы з дзяржаўнага бюджэту, а мы не.

**Аляксандр Баршчэўскі:** Ніхто нам, як грамадска-культурнай арганізацыі не забараняе прымаць удзел у выбарах.

**Алег Латышонак:** А нам, як палітычнай партыі, цікавіцца лёсам тыднёвіка «Ніва».

**Валянціна Ласкевіч:** Палітычная партыя гэта не арганізацыя.



*Прадстаўнікі БГКТ: Януш Альшэўскі, Аляксандр Баршчэўскі і Янка Целушэцкі*

статут Таварыства не дае адназначнага права назначаць галоўнага рэдактара. Размовы і пагадненне між беларускімі арганізацыямі ляжаць у вашым інтарэсе. Інакш мы будзем прымушаны самі вырашаць гэтую справу па-над галовамі" /чытай: каму даць датацыю ды ці ўвогуле даць/.

**Аляксандр Баршчэўскі:** Маем намер бараніць «Ніву» як свой орган, але ў перамовах будзем удзельнічаць. Толькі лічым, што лёс «Нівы» павінны вырашаць арганізацыі культурнага характару, не будзем

**ХТО КАМУ РОБІЦЬ ЛАСКУ**

**Ян Максімюк:** Яшчэ раз паўтараю, што «Ніва» ў аніякім выпадку не залежыць ад БГКТ. Яна будзе і так выходзіць, хіба што хтосьці ў вярхах знервуецца і не дасць грошай. Тут даецца проста шанц БГКТ мець таксама ўплыў на газету, роўны ўплыву іншых арганізацый. Калі яно гэтага не хоча, дык Праграмная рада тыднёвіка «Ніва» ўтворыцца без яго і тады Таварыства ніякага ўплыву мець не будзе. Працягваем да вас руку, даем вам шанц супольна з іншымі вырашаць лёс «Нівы», а вы ад гэтага адмаўляецеся.

Дырэктар Багуміла Бэрдыхоўская закончыла дыскусію, прыпамінаючы ўсім, што наступная сустрэча ў справе «Нівы» 4 мая, а гадзіне 10. Стварэнне або нестварэнне Праграмнай рады будзе для міністэрства сігналам, што рабіць далей.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтараў**

**ПАСТСКРЫПТУМ або ВЫЙСЦЕ З КАНФЛІКТУ**

Спатканне прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацый, якое мела давесці да стварэння Праграмнай рады „Нівы", адбылося, як і было дамоўлена, у панядзелак, 4 мая. Не прынесла яно спадзяванага выніку: прадстаўнікі БГКТ заявілі, што не з'яўляюцца паўнамоцнымі дзеля заснавання такой Рады. Гэтыя паўнамоцтвы можа ім даць (альбо не даць) Пленум ГП БГКТ, дакладная дата якога не была акрэслена. Неахвоту стварыць Праграмную раду „Нівы" выявілі і прадстаўнікі Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея. Таму прадстаўнікі астатніх беларускіх арганізацый адбылі адно пасяджэнне (у рэдакцыі „Нівы"), на якім быў ухвалены статут Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва" (Rada Programowa Tygodnika „Niwa") і прынята пастанова аб рэгістрацыі гэтай Рады ў Ваяводскім судзе ў Беластоку як асобнага згуртавання. Праграмная рада мае давесці да ўпарадкавання юрыдычнай сітуацыі „Нівы", якая пасля ліквідацыі суполкі RSW — Robotnicza Spółdzielnia Wydawnicza (папярэдняга выдаўца „Нівы") фармальна не забяспечаная. Рада таксама адчыніць уласны банкавы рахунак, на які будзе пераводзіцца дзяржаўная датацыя для „Нівы" (зразумела, калі тая датацыя будзе; прадстаўнікі Міністэрства культуры далі зразумець, што вырашэнні наконт „Нівы" могуць прымацца па-за беларускім асяроддзем, калі не будзе ў ім дасягнуты дэмакратычны кампраміс-пагадненне). Праграмная рада тыднёвіка „Ніва" ёсць менавіта гэтым кампрамісам — у ёй забяспечана дэмакратычнае ўдзельніцтва для кожнай з беларускіх арганізацый і, што больш, рэдакцыі тыднёвіка „Ніва" прызнана права аўтаномнасці (рэдакцыя ставарае свой „унутраны статут", які, між іншым, дае ёй права ставіць кандыдатуру галоўнага рэдактара тыднёвіка на зацвярджэнне Праграмнай радай). Пасля некалькіх тыдняў закалоту і спробаў дэзарганізаваць выдаванне „Нівы" было знойдзена выйсце з канфлікту, які прынёс усім беларусам у Польшчы шмат ганьбы і сораму.

**ЯН МАКСІМЮК**

---

пачатковай школе лучнасць з беларускай мовай, дазволіла б гэта нам ставіць больш націск на літаратуру, яе гісторыю, а не на практычнае авалоданне вучнямі тою ж мовай. Дзеля гэтага патрэбная ініцыятыва бацькоў, якія павінны шырэй дамагацца навучання беларускай мовы ў пачатковых школах, бо лёс гэтага навучання фактычна ж у іхніх руках. Школы, па патрабаванні бацькоў, абавязаны забяспечыць іхнім дзецям навучанне роднай мовы /абавязак гэты замацаваны 13-тым артыкулам новага закона пра асветную сістэму - А.М./. Лічу, што з настаўніцкімі кадрамі не было б аніякага клопату - у ліцэі і зараз ляжаць прашэнні ў працы выпускнікоў беларускай філалогіі.

**- Для Вашага папярэдніка ліцэй аказаўся часовым прыстанішчам. Як Вы ставіцеся да сваёй працы і новай сваёй функцыі?**

**Я. Сачко:** У жыцці па-рознаму складаецца ды цяжка нешта абсалютна вызначыць. Хачу, аднак, сказаць, што я свядома імкнуўся звязаць свой лёс з беларускім ліцэем у Гайнаўцы. Зараз не бачу ніякіх прычын, каб успрымаць сваю працу тут як часовую.

**- Дзякуем Вам за размову.**

Гутарыў:
**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
фота аўтара

**ЖЫЦЦЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ**

Гісторыя, мова, рэлігія, культура, традыцыя - гэта самыя цэнныя каштоўнасці кожнага народа. Успамагаюць іх палітыка і эканомія. Гэтыя каштоўнасці ўплываюць на жыццё кожнай нацыі. Палітыкі прыходзяць і адыходзяць, культура заўсёды астаецца. Нават у самых неспрыяльных эканамічных умовах культура, рэлігія і мова існуюць, трываюць. Як прыклад гэтаму хай будзе апошні агляд **„Беларуская песня'92"**, які быў вялікім здарэннем для слухачоў і выканаўцаў. Арганізаваць такое мерапрыемства можна было дзякуючы ахвярнай штодзённай працы штатных працаўнікоў БГКТ, дамоў культуры і саміх выканаўцаў.

Іх праца не пайшла на марна. Выканаўцы і арганізатары атрымалі высокую ацэнку не толькі ад журы, але і ад гледачоў і гасцей з Беларусі. Такіх мерапрыемстваў трэба больш у нашым асяроддзі. Калі дадаць яшчэ дэкламатарскія конкурсы, агляды драматычных гурткоў, студэнцкае „Басовішча", Купалле, дык можна сцвердзіць, што гэта і не так мала, як на нашыя абмежаваныя магчымасці. А ўсё гэта робіць жменька людзей з БГКТ і іншых арганізацый. За невялікую плату або на грамадскіх пачатках арганізуюць яны важныя і патрэбныя мерапрыемствы. Некалькіх штатных працаўнікоў не паспявае з адміністрацыйнай і арганізацыйнай работай і таму яны могуць быць толькі сувязнымі цэнтра з асяроддзем. Што ж можа зрабіць адзін чалавек з многатысячным асяроддзем горада і вёсак на Гайнаўшчыне? Як задаволіць патрабаванні розных груповак? Як прыцягнуць людзей да працы на культурнай ніве? Добра, калі дапамагаюць у гэтым дамы культуры - арганізацыйна і мерытарычна - так як у Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім. Трэба было б аднавіць дзейнасць вясковых клубаў, якія раней курыравала прадпрыемства «Рух».

Здзіўляе мяне тое, што няма грошай на культурную дзейнасць. Увогуле культура фінансуецца з дзяржаўнага бюджэту. А бюджэт ствараецца такім шляхам, што кожны жыхар плоціць немалыя падаткі. Думаю, што недарэчнасцю трэба лічыць тое, што Міністэрства культуры і мастацтва адмаўляецца даваць датацыю БГКТ. Хто ж тады будзе распаўсюджваць беларускую культуру? Каб утрымаць культуру беларускай нацыянальнай меншасці на патрэбным узроўні, трэба да гэтай жменькі працаўнікоў дадаць удвая больш інструктараў для існуючых калектываў. Трэба наладзіць курсы для кіраўнікоў калектываў пры асяродках культуры. Можа, маглі б нам дапамагчы у гэтым таксама суродзічы з-за мяжы, так як дапамагаюць калектывам у Гайнаўцы і Орлі.

Дзеля распаўсюджвання культуры патрэбны людзі, грошы і памяшканні, у якіх калектывы праводзяць рэпетыцыі, ладзяць выставы і канцэрты. Такім месцам неўзабаве стане Беларускі музей у Гайнаўцы. Ужо сёння некаторыя загадзя называюць яго Цэнтрам беларускай культуры. Думаю, што калі не будзе іншага большага асяродка, ролю цэнтра сапраўды выконваць будзе Музей. Да гэтай пары ўжо адбылося тут некалькі мерапрыемстваў і сустрэч з высокімі прадстаўнікамі палітычнага і культурнага жыцця.

Плануецца праводзіць у Музеі мастацкія пленэры, выстаўкі прац прафесіяналаў і аматараў з краіны і з замежжа. У праграме Музея прадбачваецца супрацоўніцтва з людзьмі рознага ўзросту і розных грамадскіх груповак.

У Нараўцы набліжаецца да канца пабудова прыгожага Дома культуры. Сустракацца там будуць мясцовыя самадзейнікі, аматары песні, музыкі, кіно.

Але нельга быць задаволеным з нашай палітычнай культуры. Ад многіх месяцаў на старонках не толькі нашага друку, але таксама і ў іншых сродках масавай інфармацыі вядзецца атака на БГКТ, ды найчасцей аднабакова. БГКТ дзейнічала ў акрэсленых грамадска-палітычных умовах. Перамены давялі да ўзнікнення новых арганізацый у нашым асяроддзі. Гэта вынік дэмакратыі. Трэба было б з гэтага толькі цешыцца. Толькі чаму спрэчкі «ў вярхах» маюць негатыўна ўплываць на жыццё ўсяго асяроддзя? Бадай ніхто не даручаў маладым гнеўным разбіваць сваімі непрадуманымі дзеяннямі і так не вельмі згуртаванае беларускае асяроддзе?! Кампраміс патрэбны таксама і з боку старых дзеячоў. Памылак не робіць толькі той, хто нічога не робіць. На памылках трэба вучыцца. На выключную праўду ніхто не мае манаполіі. Энергію, прызначаную на сваркі, можна выкарыстаць дзеля ратавання беларускай культуры. Трэба аднавіць культурную і асветную працу з дзецьмі і моладдзю - будучымі кадрамі для нашых калектываў.

У выбарчай кампаніі перад з'ездам БГКТ трэба пачаць шырокую прапаганду нашага культурнага руху. Трэба таксама ўвесці змены ў статут БГКТ з улікам палітычных і эканамічных змен у краіне.

А што аб гэтым думаюць чытачы?

**М. ГОЛУБ**



 




*працяг са стар. 4*

Далей, чытаючы артыкул, адчуваецца нейкі (праўда, крыху замаскаваны) жаль за ўпад Савецкага Саюза, ці лепш сказаўшы, за правал Гарбачова. Хоць, праўда, спадар Баршчэўскі зазначае, што ён „не можа быць яму за гэта няўдзячным".

Трэба, аднак, зазначыць, што правал Гарбачова гэта не ягоная асабістая віна. Усім вядома, што СССР ужо ў брэжнеўскі перыяд даходзіў да аграмаднае эканамічнае пропасці. Гарбачоў гэта пераняў у спадчыну і вельмі добра ацаніў сітуацыю. Адзін выхад з гэтае сітуацыі было знайсці грошы, г.зн. заходнюю валюту, каб магчы паставіць на ногі эканомію СССР. Але дзе? Дык ён звярнуўся да Захаду. Захад жа не мог, заплюшчыўшы вочы, даць масавую дапамогу найбольшай у свеце дзяржаве, якая каля 80% свайго дзяржаўнага прыбытку выдавала на ваеннае ўзбраенне1/ і гэткім чынам прадстаўляе найбольшую небяспеку для заходніх краін.

Зразумела, Гарбачоў мог бы знайсці іншы выхад — ужыццё ваеннае сілы, г.зн. тэрор, што рабілася да ягонага прыходу да ўлады. На шчасце, ён гэтага не зрабіў, бо такая развязка давяла б да агульнага збунтавання народаў і масавага праліцця крыві. І ў гэтым увесь свет і мы, беларусы, у асаблівасці павінны быць удзячныя яму.

Найбольш, што мяне занепакоіла ў разважаннях прафесара Баршчэўскага — гэта ягонае заяўленне, што ліквідацыя расейскай (рускай, паводле спадара Баршчэўскага) імперыі можа памагчы аднаўленню нямецкае. Прабачце, але ці мы, беларусы, мусім быць ахвярамі гэтага страху? Ці з-за гэтага страху мы, беларусы, павінны зноў уключыцца ў „единую и неделимую"? Ці няма іншага выхаду?

Зрэшты, ідэяй аб стварэнні расейскай імперыі, якой яна была да першай сусветнай вайны, напоўнены шматлікія галовы расейскіх шавіністаў-імперыялістаў і яны гэта перад цэлым светам заяўляюць. Нават Гарбачоў і Ельцын не супраць гэткіх думак. Не дарма ж называюць Ельцына цар Барыс...

З глыбокай пашанай

**ЯНКА ЖУЧКА,**
Бельгія

—————————

1/ Паводле бельгійскай газеты L'ECHO за 6-га сакавіка 1992 г., у Беларусі ў даны момант 600 000 асобаў занятыя ў ваеннай прамысловасці.

## КУРС НАСТАЎНІКАЎ У СУЛЯЮЎКУ

Ад 30 сакавіка да 3 красавіка г.г. удзельнічаў я ў курсе, уводзячым у праблематыку новай канцэпцыі агульнага навучання, арганізаваным Бюро па справах школьнай рэформы ў Міністэрстве нацыянальнай адукацыі. Курс гэты адбываўся ў Суляюўку каля Варшавы. З некалькіх соцень заяў, што надыйшлі з усяе Польшчы, арганізатары выбралі групу 35 настаўнікаў, пераважна былі гэта дырэктары школ і дарадчыкі-метадыкі. Выразна дамінуючую статыстычную большасць склалі прадстаўнікі пакалення сённяшніх 35-гадкаў. Менавіта гэтае пакаленне возьме на сваё плячо галоўную адказнасць за перабудову польскай асветы.

У гэтым курсе рэпрэзентаваў я Камісію па рэформе беларускага школьніцтва на Беласточчыне, якую ўзначальвае дырэктар Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім Васіль Ляшчынскі. З увагі на патрэбу тэрміновых дзеянняў абавязаны я зараз, хаця б у скарочанай версіі, паінфармаваць людзей з нашага асяроддзя, якім школьная праблематыка ляжыць на сэрцы, пра найважнейшыя тэзісы новай канцэпцыі навучання, стратэгію яе ўвядзення ў сістэму асветы, а пры нагодзе — пра ўласныя рэфлексіі.

Канцэпцыя генеральнай змены агульнага навучання ў Польшчы вынікае са сцвярджэння дысфункцыянальнасці сучаснай школы і патрэбы глыбокай рэвізіі правілаў яе дзеянняў. Найбольш істотная змена заключацца будзе ў тым, што ўжо не навуковыя веды, а сам вучань як чалавек у працэсе развіцця сваёй індывідуальнасці стане асноўным цэнтрам пры канструяванні праграмы і ўспрыманні зместу навучання. Новы спосаб разумення агульнай адукацыі будзе адыходзіць ад дагэтуль энцыклапедычнага дыктату ў бок падыходу больш „карыснага". Школа павінна даваць такія веды, якія дазволяць бяспечна адчуваць сябе ў складаным свеце нашай цывілізацыі. Урэшце школа будзе лепш чым дагэтуль рыхтаваць маладых людзей да выконвання абавязкаў у плюралістычным грамадстве і дэмакратычнай дзяржаве права.

Сёння ў Польшчы школьная сістэма сфарміравана згодна з асновамі дыдактычнай стратэгіі, якую можна назваць „стратэгіяй прымушэння" з яе найважнейшым сродкам — ацэнкай настаўніка. Такое дзеянне школы выклікае дамінацыю пасіўна-прыстасаваўчых пастаў сярод вучняў. Яны на штодзень вучацца амаль толькі таму, што будуць у школе пытаныя. Дагэтуль аднабаковы падыход да справы навучання трэба замяніць „мешанай стратэгіяй", у якой элементы прымушання будуць існаваць у акрэсленай лагічнай раўнавазе з элементамі ўзбуджэння і накіравання развіцця.

Міністэрства нацыянальнай адукацыі перш за ўсё прапануе, каб ад 1 верасня 1994 года:

а) настаўнікі кожнага прадмета мелі права выбару розных праграм; супольны быў бы толькі праграмны мінімум,

б) з першага класа пачатковай школы сістэму ўрокаў перасунуць у другі клас; на этапе пачатковага навучання (1—3 класы) асноўная ацэнка павінна мець апісальны характар,

в) ад чацвёртага да восьмага класаў адна частка праграмы была рэалізавана ў класна-ўрокавай сістэме (8 прадметаў: польская мова, гісторыя, веды пра жыццё ў грамадстве, біялогія з гігіенай, геаграфія, фізіка, матэматыка і хімія), а другая частка — у сістэме заняткаў, арганізаваных для іншых, чым клас, груп вучняў.

г) агульнаадукацыйная школа трывала б тры гады, потым вучань выбіраў бы: ці праз год мае рыхтавацца да вучобы ў вышэйшых навучальных установах, ці на працягу 2 гадоў будзе здабываць прафесію ў пасляліцэйскай школе.

Міністэрства ўжо апрацавала праекты праграм-мінімумаў для 12 прадметаў — пачатковага навучання, польскай мовы, гісторыі, матэматыкі, фізікі, хіміі, біялогіі, геаграфіі, філасофіі, ведаў пра жыццё ў грамадстве, музыкі і пластыкі. Неўзабаве будуць гатовы праекты мінімумаў для навучання латыні, тэхнікі і фізкультуры. Не пазней як у лістападзе г.г. прымецца міністэрствам афіцыйны пакет праграмных мінімумаў.

Да пачатку школьнага года 1994/95 сцэнарый перабудовы агульнага навучання ахоплівае наступныя найважнейшыя дзеянні:

а) тварэнне праграм навучання (адкрыты конкурс на праграмы),

б) падрыхтоўку настаўнікаў,

в) арганізацыю дапаўнення праграм (рэестр падручнікаў і дапаможных кніжак),

г) тварэнне фінансавых і юрыдычных правілаў,

д) прыстасаваўчыя дзеянні ў прафесіянальным і спецыяльным навучаннях, а таксама ў школах для дарослых,

е) інфармацыйную кампанію.

Найважнейшай задачай Камісій па справах рэформы беларускага школьніцтва на працягу некалькіх найбліжэйшых месяцаў (да канца кастрычніка г.г.) з'яўляецца падрыхтаванне праекта праграм—мінімумаў для навучання беларускай мовы ва ўсіх класах пачатковай і сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Пасля акцэптацыі гэтых мінімумаў Міністэрствам нацыянальнай адукацыі справай асаблівага значэння будзе апрацаванне не менш чым 2 альтэрнатыўных праектаў праграм навучання роднай мовы. Пасля гэтых дзеянняў настане час на тое, каб пісаць новыя падручнікі і ўводзіць рэестр дапаможных кніжак. У гэтай важнай і карпатлівай працы хочацца бачыць творчую актыўнасць многіх нашых інтэлігенцкіх асяроддзяў — настаўнікаў з розных тыпаў школ, навуковых працаўнікоў Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў ды ўсіх тых, каму захаванне жывога роднага слова на Беластоцкай зямлі з'яўляецца ўнутраным маральным наказам. Скажу яшчэ і тое, што праграмнай камісіі ці лепш — праграмным камісіям трэба будзе пастаянна знаёміцца з самымі новымі апрацаваннямі ў Міністэрстве асветы Рэспублікі Беларусь.

У выпадку гісторыі, геаграфіі, ведаў пра жыццё ў грамадстве, музыкі і мастацкага выхавання падрыхтаваныя беларусамі саставы лозунгаў (тэм) Міністэрства адукацыі далучыць да афіцыйнага пакету праграм навучання як інтэгральныя іх часткі. Хіба што хтосьці захоча апрацаваць аўтарскую праграму, змяшчаючую прадметны мінімум і лозунгі адносна сваіх нацыянальных і рэгіянальных тэм. У сувязі з гэтым можна спадзявацца, што знойдуцца кампетэнтныя людзі, якія возьмуцца за напісанне кніжных апрацаванняў.

Вяртаючыся да маёй пабыўкі ў Суляюўку каля Варшавы, асабліва хачу падкрэсліць жывую і натуральную зацікаўленасць кіраўніцтва і ўдзельнікаў курса праблемамі беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне. У перапынках паміж дакладамі і семінарамі не адзін з удзельнікаў курсу падыходзіў да мяне і распытваў пра справы беларускага школьніцтва і культуры ў Беластоцкім краі, пра суадносіны паміж грамадскасцямі двух народаў і рэлігій, пра Рэспубліку Беларусь. Я не бачыў ніводнага нездаровага жэсту, ніводнага следу непрыхільнасці. Мае асабістыя рэфлексіі як вынік непасрэдных размоў з маладымі польскімі настаўнікамі — будуючыя і аптымістычныя.

Пад час адной з вячэрніх сяброўскіх сустрэч з удзелам усіх курсантаў і міністэрскага кіраўніцтва расказваў я пра літаб'яднанне „Белавежа" ды чытаў вершы з томіка „Лісты блакітных успамінаў". Няскромна тут скажу, што вершы элітарная аўдыторыя прыняла воплескамі.

Запланаваным элементам настаўніцкага курса былі супольныя шпацыры. Вось тады дырэктару Бюро па справах школьнай рэформы ў МЭН доктару Станіславу Славінскаму расказаў я аб праблемах беларускай асветы ў школах на тэрыторы кампактнага пражывання беларусаў, аб пагрозах для культурнага дуалізму рэгёна і Праваслаўнай Царквы на Беласточчыне, якія, між іншым, вынікаюць з усё вузейшага круга ведання беларускай мовы і кірыліцы ўвогуле сярод дзяцей і школьнай моладзі.

Даклады і дыскусіі ў Суляюўку цэлы час суправаджала тэлевізія (будуць праграмы ў „Тэлевізіі адукацыйнай"). Некалькі разоў публічна выступаў я ў тэмах, балючых для мяне або трывожных.

**ЮРКА БАЕНА**

P.S. Пад час вяртання дадому на чыгуначным шляху з Чаромхі ў Бельск-Падляшскі быў я ўдзельнікам своеасаблівага псіхозу, які выклікалі кандуктар, рэвізійны кандуктар і кіраўнік поезда. Адна з трох жанчын, што з Беларусі ехалі ў Бельск, не мела адпаведнага білета, каб падарожнічаць па трасе Седльцы—Беласток. Тон размовы ў мужын, апранутых у чыноўніцкія ўніформы, быў, аднак, прыдзірлівы, грубы і агрэсіўны, выразна чутны ў другім канцы вагона. Крычалі яны па-польску, па-руску і па-свойму, падарожніца пачала бараніца плачам. Адна жанчына з Чаромхі неўзабаве ўжо плаціла належнае за дарогу жанчыны з Беларусі. У гэты момант падышоў я да шаноўнага кіраўніцтва, тутэйша-беларускага па нацыянальнаму паходжанню, з пераканаўчымі, здавалася, маральнымі аргументамі. Адказ рэвізійнага кандуктара быў „канкрэтны": „Замкній се пан!". Ён запатрабаваў паказаць білет. Праз некалькі хвілін кандуктар яшчэ больш пагрозліва гартаў мае дакументы... Са свайго боку з прычыны звычайнай цікавасці даведаўся я, што гэты чалавек штонядзелю спявае ў Чаромхаўскім царкоўным хоры, а ў мінулыя гады не раз (часам два разы ў тыдзень) ездзіў за ўсходнюю дзяржаўную мяжу. Навошта — яго справа. Моўчкі сябе аднак пытаю: ці не выпадкова па беларускае „залатое руно"?

**Ю.Б.**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ЧАРНОБЫЛЬ

Гора горкае - Чарнобыль...
Ты здаешся страшным сном.
Але не, ты мне не снішся,
Боль душы ў табе і стогн.
Стогн, які мне душыць горла,
Стогн, што чуе ўся зямля.
Маці адчуваюць гора,
Тых дзяцей, што больш няма...
Хай на свеце
больш не будзе
Гэтых цяжкіх-цяжкіх страт.
Заклікаю я вас, людзі,-
Кожны кожнаму з вас -
брат!

**АЛЁНА ЦВІРКА,**
Баранавічы





Бусько.

## БУСЬКО

Да буслоў у нас адносіліся з нейкай пяшчотнай павагай. Называлі не інакш, як буськамі. І кожны стараўся, каб на яго котлішчы жыла гэта птушка. Лічылася нават, што тады хату міне маланка, што ў сям'і будзе шчасце.

Але тое было калісьці. Асушылі суседнія балоцейкі, выпрасталі рачулкі, спусцілі ваду - і буслы пакінулі вёску.

...Палявой дарогаю вяртаюся дадому. Хмарна. Цярусіць дождж. Паказаліся першыя хаты. Перад імі, замест колішняй лугавіны, - цямнее пярэстая ралля. «Заглыбока пусцілі плугі,- падумалася.- Ажно да глею дасталі».

На ўскрайку раллі заўважаю бусла. Мурзаты і ўсё роўна як сонны хадзіў ён пад дажджом. І ні тае паставы, ні тае грацыёзнасці, што мы прывыклі бачыць у гэтых птушак,- адна заклапочанасць.

На душы рабілася прыкра: «Бусько месіць гразкую раллю і здзіўляецца: а што сталася, пакуль быў у выраі?..» Мы, часам, такое пытанне і не задаем сабе.

**ЯРАСЛАЎ ПАРХУТА**

## ЧАМУ Ў ЛАСТАЎКІ ХВОСЦІК РОЖКАМІ

/КАЗАХСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА/

Даўным-даўно правіў светам страшны змей Айдыхар. Піў ён адну толькі кроў. Нікому не даваў літасці. А подлы камар быў у яго на пабягушках.

Клікнуў аднойчы змей камара і кажа яму:

- Абляці ўсю зямлю, паспытай употай крыві ўсіх жывых істот. А калі вернешся, даложыш мне, чыя кроў самая салодкая. На каго пакажаш, тых і буду губіць.

Паляцеў камар. Выканаў загад, вяртаецца назад. Сустракае яго ластаўка.

- Куды лятаў?

- Па загаду ўладара майго Айдыхара абляцеў усю зямлю, каб даведацца, чыя кроў самая салодкая.

- Ці даведаўся?

- Самая салодкая кроў чалавечая, - прапішчаў камар.

Ластаўка ўстрывожылася.

- Не кажы, камар, праўды. Чалавек добры, не губі яго.

- Не, скажу!

Прыляцеў камар да Айдыхара, і ластаўка побач уецца.

- Ну, - зашыпеў змей, - расказвай пра ўсё, што разведаў. Ды каб ні слова хлусні!

- Уладар мой, - задрыжаў камар, - скажу табе ўсю праўду, нічога не ўтаю. Самая смачная, самая салодкая кроў у...

Хацеў сказаць «у чалавека», ды не паспеў. Ластаўка накінулася на камара і адшчыкнула яму вострай дзюбкай кончык языка.

Замітусіўся камар над змеем:

- З-з-з... з-з-з... з-з-з....

Але нічога вымавіць не можа.

А ластаўка весела шчабеча:

- Я ведаю, Айдыхар, што хацеў сказаць твой прыслужнік: самая салодкая на свеце змяіная кроў!

Раззлаваўся змей, скруціўся ў клубок і скочыў у неба. Ды няма птушкі спрытней за ластаўку. Ірванулася яна ўбок, і змог Айдыхар толькі за хвосцік яе схапіць. Так з трыма пёркамі ў зубах і рухнуў з вышыні на зямлю, ударыўся аб камень і - дух вон.

Вось чаму ў ластаўкі хвосцік рожкамі, і вось чаму людзі любяць гэту птушку.



## ЗНАЙДЗІ ХУСЦІНКУ

/Аўстралійская дзіцячая гульня/

Гэта гульня распаўсюджана не толькі ў Аўстраліі. Ігракі выбіраюць вядучага, які хавае хусцінку, а астатнія ў гэты час зажмурваюцца. Хусцінку хаваць на невялікай тэрыторыі, якую загадзя адзначаюць. Схаваўшы хусцінку, ігрок кажа:

- Хусцінка адпачывае!

Усе пачынаюць яе шукаць, пошукі накіроўвае ігрок, які схаваў хусцінку.

Калі той, хто шукае, недалёка ад схаванай хусцінкі, вядучы гаворыць: «Цёпла!» Калі зусім блізка, то кажа «Горача!» А калі «Агонь!», то трэба хусцінку хапаць. А калі ён аддаляецца ад таго месца, дзе схавана хусцінка, яго папярэджваюць словамі «Прахладна!», або «Холадна!»

Той, хто знойдзе хусцінку, не кажа пра гэта, а непрыкметна падкрадваецца да бліжэйшага іграка і б'е хусцінкай. Цяпер ужо яе будзе хаваць той ігрок.

/В.Б./



*–Якой пароды твой пан?*

## МАЛАНКА І ГРОМ

У згодзе калісьці жылі Маланка і Гром. Любіла Маланка, калі хмары ўкрывалі неба і ажно чорным рабілася ўсё навокал.

А Гром, гледзячы на яе, шчыра радаваўся. Сябраваў ён з Маланкай. Дык неяк гарачая Маланка нізка над зямлёй шуганула і зачапіла дрэва. Загарэлася яно. Маланка ўзрадавалася і давай іншыя дрэвы паліць!

Гром разгневаўся на Маланку, пачаў сварыцца на яе, каб не паліла дрэў. Але Маланка не паслухалася Грому. Людзей крыўдзіць пачала, будынкі падпальваць.

І цяпер у навальніцу - толькі блісне Маланка, Гром ужо злуецца, сварыцца на яе.

Маланка яшчэ больш разыходзіцца - Гром голас павышае. І так да таго часу, пакуль не ўтаймуе ліхадзейку, пакуль не перастане сваволіць Маланка. Тады і Гром сціхае. Тут, глядзіш, і дождж перастае. А новая навальніца пачнецца - усё паўтараецца. Кароткая памяць у ліхой Маланкі!

**ЮРЫ ЯРМЫШ**

**ЕЎДАКІЯ ЛОСЬ**

## МІНУЛАГОДНІ ЛІСТ

Завіс на тоненькай галінцы
Сухі, пажоўклы, нежывы...
А ўжо не сніцца ручаінцы
Пад небам цёплым, паравым.

А ўжо, на радасць вербалозу,
Вясенні дожджык зашаптаў...
І льюцца кроплі, быццам слёзы,
Па твары зморшчаным ліста.

А для галінкі дожджык чулы -
Чаканай свежасці прыліў:
Карыцу бляскам пацягнула,
Пупышкі лопацца пайшлі.

Сама, як ранне, маладая,
Адзеўшы новы лісты,
Яна, відаць, не прыгадае,
Што з ёй гібеў у сцюжу ты.

## малюнкі школьнікаў



*Малюнак Агаты Кур'яновіч.*

### НЭЛІ ТУЛУПАВА

### СЫРАЖУЙКІ

Дзед Пахом
І ўнук Алежка
У лес пайшлі
Па сыраежкі.
А за імі кот Мявука,
Певень Куд
І свінка Жуйка.
Дзедка тупае ля елак,
Разграбае мох кійком.
Унук ляціць наперад смела,
А дубец - ягоны конь.
Кот Мявука каля норкі
Адганяе пеўня: «Кыш!»
Шышку скінулі вавёркі,
Кот як скочыць!
Думаў - мыш...
Жуйка бегае па сцежках,
Пятачком ледзь павядзе -
Там красуюць сыраежкі,
Як цюльпаны на градзе.
Лес прайшлі
З унукам дзед.
Не знайшлі грыбоў нідзе.
Што за дзіва, што за цуд?
Падлятае да іх Куд:
- Захварэла наша свінка,
І жывот баліць, і спінка...
- Што ты ела, Жуйка?
- Ела «сыражуйкі»,
Каля сцежак,
Ля кустоў
Не адну,
А цэлых -
Сто!

### КАЗА

Палохала Каза:
- Рагамі выб'ю гром
І высеку маланку капытом!
Спужаліся куры:
- Кудах-кудах-кудах!
Спужаліся качкі:
- Кра-кра, кра-кра - бяда!
Спужаліся гусі:
- Га-га, га-га!.. Каза,
Чым цябе ўгнявілі,
Дзераза?
А Каза галавой трасе:
- Мээ... вы ўсе...
Вінаватыя ўсе.
Усю траву
Маю выскублі,
Мураву маю
Выдзяўблі.
Не прайсці -
Столькі вас развялося! -
Барадою трасе ад злосці:
- Беражыцеся! -
Куры ў крапіву,
Качкі ў каноплі,
Гусі ў лазу,
Плачуць,
праклінаюць Казу.
Клічуць сястрыцу Сініцу:
- Ты, сястрыца-Сініца,
Калісь падпаліла мора,
Можа, цябе Каза пабаіцца?
Гора нам, бедным, гора...
- Некалі мне, Сініцы,
За вас заступіцца.
Куры ў каноплі,
Качкі ў крапіву,
Гусі ў лазу,
Плачуць,
Праклінаюць Казу.
Клічуць Ваўка.
А Воўк
Пабачыў Казу
Ды ўцякаць:
- Страшэнных коз
Не страчаў
Я такіх,
Ратуйце мяне,
Ратуйце, браткі!
Гусі ў крапіву,
Качкі ў каноплі,
Куры ў лазу,
Плачуць,
Праклінаюць Казу.
А міма ляцеў Авадзень.
Злосны.
Галодны.
Не еў цэлы дзень.
І джыгануў Авадзень
Казу ў бараду!
Каза ад болю аб дуб
Як грымнецца:
- Мэ-э!
Бліснула ў яе галаве бліскавіца:
- Не будзеш, Каза, хваліцца!

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

***

- Я цяпер даношчык, - кажа маленькі Міколка.
- Гэта чаму?
- Як чаму?! Даношваю валёнкі сястры!

***

Плачуць два хлопчыкі.
- Ты чаго плачаш? - пытаюць у аднаго.
- Я праглынуў шкляны шарык.
- А ты чаго плачаш? - пытаюць у другога.
- Гэта быў мой шарык.

***

- Дзядзька, вы ў лесе нарадзіліся?
- Чаго пытаешся?
- Бо бацька казаў: «Зноў прэцца да нас гэты стары пень».

***

Настаўнік вучню:
- Ну і што сказаў бацька, паглядзеўшы твой дрэнны дзённік?
- Вельмі разззлаваўся. Убачыце яго - лепш абмінайце!

### ПАМОЧНІЦА

- Чаму ты так позна вярнулася дадому?
- Я была ў Марыйкі - дапамагала ёй рабіць урокі.
- Але ж яна выдатніца!
- Я дапамагала Марыйцы рабіць мае урокі.

/В.Б./

### БУЛАНЫ І ВАРАНЫ

/КАЗКА/

Жылі на адной стайні два кані: буланы і вараны. Аднойчы яны пачулі, як конюх сказаў: «А Зямля круглая. Калі пойдзеш напрасцяк ці паплывеш, то ўсё роўна вернешся на тое ж самае месца...»

Уначы буланы сказаў вараному:

-Слухай, давай праверым, ці праўда, што Зямля круглая.

-Навошта?- сказаў вараны.- Наш конюх - чалавек разумны і сумленны, хлусіць не будзе. Што тут правяраць, калі ўсё роўна вернешся на тое ж самае месца. Толькі капыты саб'еш.

А буланы конь усё думаў, думаў ды і сышоў раніцай са стайні. Як яго ні шукалі - не знайшлі.

«Відаць, захацеў праверыць, ці круглая Зямля,- падумаў вараны.- І навошта? Ці варта траціць сілы, калі і без таго работы хапае? Ды і небяспечна: і патануць можна, і ваўкі пяроймуць, ды і ліхія людзі зацугляць могуць...»

З таго часу мінула восем год. Вараны конь даўно забыўся на свайго сябра. Састарыўся. Бралі яго толькі на лёгкую работу - цяжкая была ўжо не пад сілу.

І вось аднойчы бачыць - ідзе да стайні былы яго сябар.

-Няўжо гэта ты, дружа?

-Я,- прызнаўся буланы.- І як ты мяне пазнаў?

-Ды ўжо ж пазнаў,- адказаў вараны, а сам думае: «Цяжка цябе пазнаць, былы прыгажун ператварыўся ў клячу. Бакі ўваліліся, зубы сцерліся, адно вока выцекла, капыты збіліся, на ўсе ногі кульгаеш. Ледзь жывы...»

-Што і казаць,- уздыхнуў буланы.- Калі па шчырасці, і я цябе ледзь пазнаў. Але вельмі добра, што мы з табою зноў сустрэліся. Пад старасць так хочацца бачыць сяброў маладосці...

-Ну і як ты? Пераканаўся, што Зямля круглая?

-Пераканаўся,- уздыхнуў буланы конь.- Аднак пераканаўся і ў іншым. Зямля не толькі круглая, але і вялікая, прыгожая, і столькі на ёй цудаў, што і не пералічыць.

«І што з таго?- падумаў вараны конь.- Усё адно кожны вяртаецца туды, адкуль пайшоў у свет...»

ЭДУАРД СКОБЕЛЕЎ

*З рускай мовы пераклала Тамара Тарасава*



А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А

*Хто з кім сустрэнецца?*

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА

### 11. ГЕРМАНІЗМЫ.1

Пры разглядзе германізмаў трэба адрозніваць два асноўныя перыяды іх пранікнення ў беларускую мову — старажытны і новы.

„Словы нямецкага паходжання пачалі пранікаць у мову беларусаў у выніку гандлёвых зносін з прыбалтыйскімі немцамі, а таксама пашырэння магдэбургскага права і пасялення на тэрыторыі Беларусі нямецкіх каланістаў, рамеснікаў, гандляроў, спецыялістаў ваеннай справы. У XIII - першай палавіне XIV ст. у беларускую мову непасрэдна з нямецкай мовы прыйшлі такія словы, як *бровар, вага, дах, кнот, ліхтар, пуд, фунт* і інш. Многія словы запазычаны праз польскую мову ў той жа ці пазнейшы час, г. зн. у другой палове XVI—XVIII ст. ст., калі беларускія землі знаходзіліся ў складзе Рэчы Паспалітай, напрыклад: *варштат, грунт, кафля, цэгла* і інш. "2 Сведчыць аб гэтым тое, што яны выступаюць у польскім гучанні або ў польскім марфалагічным афармленні, напрыклад: *варштат* (параўн. польск. *warsztat* ням. *Werkstatt), ганак* (параўн. польск. *ganek* ням. *Gang), рахунак* (параўн. польск. *rachunek* ням. *Rechnung).*

У старабеларускай мове ў розных дзелавых помніках: граматах, дагаворах, актах, статутах, прыходна-расходных запісах і г.д. выступае значная колькасць нямецкіх запазычанняў і слоў, утвораных на іх аснове. Найбольш пашыраныя сярод наватвораў гэта суфіксальныя ўтварэнні.3 З'яўляюцца яны пасведчаннем таго, што словы — запазычанні з нямецкай мовы прыжыліся ў беларускай мове. Належаць да іх:

— прыметнікі з суфіксам славянскага паходжання *-ск-*, утвораныя ад назоўнікаў на *-аръ*: *малярский, млинарский, пушкарский, римарский*;

— прыметнікі са значэннем прыналежнасці, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-н-* і *-ов-*: *едвабный, крамный; дротовый, крышталовый*;

— назоўнікі з вядомым яшчэ ў агульнаўсходнеславянскай мове суфіксам *-никъ*: *будникъ* (смалакур),*линник* (канатчык), *стырник* (рулявы), *шиндельник* (гантаўшчык);

— словы з эмацыянальна-ацэначнымі суфіксамі *-к-а, икъ, -енкъ, -ечкъ*: *коновка,* (пончошка); *крипикъ* (малое судна); *келишокъ, ланцужокъ; ваненка; пуделечко, фляшечка*;

— назоўнікі са значэннем дзеяння, утвораныя пры дапамозе суфікса *-нье (-не)*: *буксованье, друкованье, смарованье, танцованье, фарбованье, шинкованье;*

— назоўнікі з новым значэннем, напр.:

нем. (свн.) *mure, mur* (каменная або цагляная сцяна, мураваны будынак, горад), ст. бел. *муръ* (каменная або цагляная сцяна, мураваны будынак, агарод гарадская мураваная сцяна, будаўнічы матэрыял для каменных або цагляных будынкаў);

нем. (свн.) *phorte* (вароты), ст. польск. *forta* (калітка), ст. бел. *форта* (створка акна, калітка);

нем. (нвн). *Kamin (*дымавая труба, шчыліна ў гарах), польск. *komin* (дымаход, труба, шчыліна ў гарах), ст. бел. *каминъ* (месца ў печы, дзе раскладваюць агонь, ачаг; дымаход; кавальскі горан).

„Не ўсе словы, пранікшыя з нямецкай мовы, валодалі аднолькавай здольнасцю ўтвараць дэрываты. Многія з іх зусім або ў невялікай колькасці вылучаюцца словаўтваральнай актыўнасцю, бо маюць канкрэтнае, прадметна-тэрміналагічнае значэнне.

Такім чынам, іншамоўныя словы, увайшоўшы ў старабеларускую мову, не заставаліся чужымі ў яе слоўнікавым саставе, а служылі базай для ўтварэння новых слоў. Пры ўтварэнні дэрыватаў выкарыстоўваліся тыя словаўтваральныя спосабы і словаўтваральныя сродкі, якія беларуская мова ўнаследавала ад агульнаславянскай або агульнаўсходнеславянскай эпох."4

———————

1 Літаратура: Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы.Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія, Мінск 1961, с. 168—169; В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія: Фразеалогія, Мінск 1984, с. 60—61; В.М. Галай, Словаўтваральная здольнасць германізмаў у старабеларускай мове, у: Беларуская мова і мовазнаўства, вып. IV, Мінск 1976, с. 80—88.

2 В.П. Красней, ..., с. 60.

3 М.В. Галай, ..., с. 80—87.

4 Там жа, с. 87.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькае Сэрцайка! Вельмі мне сумна. Мой жаніх у лістападзе мінулага года выехаў на пастаяннае жыхарства ў Амерыку. Ён быў удаўцом, а я – удава. Ужо збіраліся пажаніцца. Нават дакументы падалі. У той час ён атрымаў амерыканскую візу і хуценька сабраўся ў дарогу (адзін!).

Я была ў шоку. Як гэта так, мы ж мелі эвентуальна ехаць разам. Такія ў нас планы былі! І кахаў, здавалася мне, ён цэлым сэрцам. Я да яго, гаворачы праўду, занадта гарачых пачуццяў не мела. Але падумала, што калі выйду за яго замуж, дык ён і мяне возьме ў тую Амерыку, а ў яго ж там сям'я — дык дапамогуць і з працай, і з кватэрай. А як добра пойдзе, дык сцягну туды пасля і сваіх жанатых сыноў.

Зрэшты, усё гэта мы планавалі разам, так што маёй выдумкі тут няма. А тут узяў ды выехаў. Не скажу, перад ад'ездам быў вельмі мілы. Сказаў, што ён мяне і так туды запросіць, ды там і возьмем шлюб. Аднак жа не стараўся, каб прыспешыць наш шлюб тут, на месцы. Сказаў, што калі пускаюць, дык мусіць ехаць як мага хутчэй. Абяцаў адразу пачаць старанні наконт майго прыезду да яго. Загадаў быць цярплівай і чакаць.

Так і сталася. Як толькі ён выехаў, я пачала чакаць. Пасыпаліся лісты ад яго. Пісаў спачатку пра кожную, нават неістотную, дробязь. Але шмат пісаў і пра каханне. Умоў дзеля таго, каб прыняць мяне, пакуль што ў яго не было: жыў у дачкі, якая з сям'ёй наймала кватэру ў сваякоў мужа. Але трэба жыць надзеяй!

Я чакала і верыла. Аднак жа лісты пачалі прыходзіць усё радзей і былі ўсё больш халодныя. Нарэшце перастаў пісаць зусім. Сын мой кажа: „Не дуры сабе ім галавы, у іх жа там сваіх удоваў поўна!" Мне вельмі крыўдна. Я якраз чула, што ў зяця майго жаніха ёсць вольная цётка, якой ён неабыякавы.

Як ты думаеш, даражэнькае, ці варта мне яшчэ на яго разлічваць?

**ПОЛЯ**

Поля! Найлепш было б, калі б вы ўзялі адразу шлюб. А так дык можа і нічога з гэтага не будзе. Разлука людзей вельмі аддаляе, а заграніца — асаблівa. Чалавек трапляе ў новы вір жыцця, усё мае іншыя вымярэнні, другія людзі і спосаб жыцця. Усё былое паволі адплывае і раствараецца ў нябыце. Перад ім новае жыццё, хаця не заўсёды лепшае чым ранейшае.

Але ў тваім выпадку можа быць і інакш. Старэйшы чалавек без кватэры, а мо і без працы — хто ён у Амерыцы? Там лічацца толькі тыя, што маюць у кішэні, або прынамсі маладыя і здаровыя. На жаль, твайго „жаніха", здаецца, да такой катэгорыі не залічыш. Мо тая цётка, што неабыякавая ў адносінах да яго, і запрапанавала яму лепшыя варункі жыцця. Кожны шукае, дзе лепш...

**СЭРЦАЙКА**

**************************************************




## ПІЦЦА

Айчынай піццы з'яўляецца Італія. Зразумела, што там яе робяць найлепш. Але і ў Польшчы ў апошні час мае яна штораз больш прыхільнікаў. Падрыхтоўваюць яе ў асноўным з дрожджавага цеста, хаця некаторыя робяць яе з крухкага ці паўкрухкага цеста. Дадаткі да яе бываюць самыя разнастайныя, але таматны соус і галандскі сыр прысутнічаюць фактычна заўсёды.

Піццу пякуць у гарачай духоўцы каля 20 мінут, пакуль краі цеста не будуць добра адставаць,а сярэдзіна не стане цвёрдая. Падаюць яе наогул гарачай, з чырвоным віном ці півам.

**Піцца па-варшаўску**

Цеста: 300 г „тортавай" мукі, каля 2/3 шклянкі малака, 20 г дражджэй, 3 лыжкі алею, соль, паўлыжкі цукру.

Наверсе: 4 крутыя яйкі, 5 г салоных філеяў селядца, 150 г пячурыц, паўтары лыжкі тлушчу, 150 г жоўтага сыру, 3 лыжкі кечапу, соль, перац, майранак.

Дрожджы расцерці з цукрам і часткай цёплага малака і паставіць у цёплае месца на паўгадзіны. Тады ўліваць іх паволі ў прасеяную муку разам з рэштай малака, пасаліць, вымясіць цеста так, каб увайшло ў яго як мага больш паветра. Калі ўжо цеста будзе адставаць ад рук і посуду, уліваць паволі алей, месячы далей цеста.

Цеста накрыць сурвэткай і пакінуць, каб падрасло. Калі яно падвоіць свой аб'ём, палажыць яго на бляшку, змазаную алеем.

Пячурыцы ачысціць, спаласнуць, нарэзаць скрылёчкамі, падсмажыць. Палажыць на цеста грыбы, парэзаныя яйкі, дробненька пасечаныя селядцы і тоненька нарэзаны сыр, пасыпаць прыправамі, паліць кечапам, запячы.

**Піцца па-матроску**

Цеста — як у папярэднім рэцэпце.
Наверсе: 3 памідоры, 200 г варанай рыбы, 100 г жоўтага сыру, 40 г разынак, соль, перац, тымян.
Памідоры абліць кіпетнем, абабраць, нарэзаць. На цеста класці: памідоры, кавалкі варанай рыбы, пасыпаць памытымі разынкамі, прыправамі і сцертым на тарцы сырам. Запякаць у духоўцы 20 мінут.

**Піцца па-кардынальску**

Цеста — тое самае, як і раней.
Наверсе: 200 г каўбасы, 2—3 кіслыя яблыкі, 2 крутыя яйкі, 4 лыжкі кечапу, 100 г жоўтага сыру, соль і тымян па смаку.

Зняць з каўбасы скурку, нарэзаць палосачкамі. Яблыкі памыць, абабраць, перарэзаць напалавіну, выняць семечкі, нарэзаць яблыкі і яйкі. Класці на цеста каўбасу, яблыкі, яйкі, паліць кечапам, пасыпаць прыправамі і сцертым сырам, запячы.

**ГАСПАДЫНЯ**




Астроне! Мне прыснілася, што я кармлю дзіця грудзьмі. Малака ў мяне поўна і яно струменямі ліецца на дзіця. Аднак жа дзіцятка гэта нейкае маленькае, кволенькае і брыдкае. Мая дачка мае неўзабаве радзіць. Як ты думаеш, ці гэты сон можа быць звязаны з гэтай падзеяй? Бо я ж, праўду кажучы, увесь час думаю пра гэта.

**Аліна**

А мне, Астронку, прыснілася, што былі ў мяне два пярсцёнкі. І раптам бачу я, што і ў адным і другім замест вочкаў — прыгожыя жывыя ружы чырвонага колеру. Што можа абазначаць гэты сон?

**Дарота**

Аліна! Твой сон, натуральна, можа быць звязаны з пастаяннымі думкамі пра дачку, якая мае нарадзіць дзіця, але можа абазначаць таксама нейкае нешчаслівае каханне (тваё або тваёй дачкі). Тыя тваё „кормячыя" грудзі, поўныя малака, могуць сведчыць аб пачуццях з твайго боку. Аднак жа той, каго ты карміла імі, быў кволы і брыдкі. Мяркую, што спадзяванай аддачы тут не будзе.

Дарота, а твой сон добры. Ён таксама датычыць сардэчных спраў. Спадзявайся нейкіх моцных пачуццяў, вялікага кахання, якое можа давесці нават да вяселля. Мяркую, што ты яшчэ незамужняя?!

**АСТРОН**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Позна вечарам на цёмнай лонданскай вуліцы.

— Калі вы дасце мне дзесяць фунтаў, то выратуеце жыццё аднаго паважанага грамадзяніна!

— Выбачайце, але вы не выклікаеце ўражання паважанага грамадзяніна.

— Я ведаю, ды я гавару аб вас.

*

Пасля доўгіх роздумаў містэр Джонс знайшоў спосаб пераканаць сваю жонку вадзіць машыну больш асцярожна. Ён сказаў, што калі яна трапіць у катастрофу, газеты паведамяць у некралогу аб яе ўзросце.

*

— Значыць, вы гаворыце, што ў вас знікла жонка?

— Так, пане камісар. Два гады назад.

— І вы толькі цяпер з'яўляецеся?!

— Я да гэтых пор не мог у гэта паверыць.

*

Галівудская кіназорка ў пяты раз выйшла замуж, на гэты раз за французскага мастака.

— Вы шчаслівы з ім? — спыталі яе рэпарцёры.

— О, так! — усклікнула кіназорка. — Цяпер я заўсёды буду выходзіць замуж толькі за французскіх мастакоў!

*

Размаўляюць два злодзеі-кішэннікі:

— Ты не ўяўляеш, да чаго ўсё-такі ўпалі ў нас норавы...

— А што здарылася?

— Учора я залез у кішэню аднаго зусім інтэлігентнага чалавека. І што ты думаеш? Гэты паганец ухітрыўся зняць з майго пальца персцень!

*

Аднойчы Бу Адам прыйшоў у госці. Гаспадар якраз садзіўся абедаць.

— Калі ласка, — сказаў ён, запрашаючы госця да стала. — Хай любіць вас ваша цёшча!

Пачуўшы гэтыя словы, Бу Адам запярэчыў:

— Не, цёшча не любіць мяне. Калі б яна любіла, дык не падсунула б мне сваю дачку.

*

Дзяўчынка з маці праходзяць каля дома, у якім жыў Віктар Гюго.

— У гэтым доме нарадзіўся вялікі чалавек, — гаворыць маці.

— Вялікі? А я думала, што дзеці нараджаюцца зусім маленькімі.

Падборку зрабіў
ЯСЕНЬ



*– Доктар, мой гаспадар мяне не разумее...*

## СІЛА ЗВЫЧКІ

- Прывітанне кума!

- Прывітанне, кумачка! Ты адкуль звоніш?

- З кватэры. Тое-сёе раблю. Бялізну прасую, потым трэба завіўку зрабіць. А ты чым займаешся?

- Чытаю вельмі цікавую кніжку. «Касмічная прастытутка» называецца. Потым, калі мой вернецца з рыбалкі, пойдзем у кіно. Мо якога шчупака зловіць, юшка будзе.

- Вой, глядзі, кумачка, глядзі! Можа, ён не шчупака ловіць, а забаўляецца дзе-небудзь з якой платкай. А кніжку, калі прачытаеш, дасі мне. Гэта ж трэба куды дабрацца, да космасу!.. Яшчэ чула навіну? Ала Пугачова нарадзіла!

- Памру са смеху! Дык гэта ж не яна, а яе дачка нарадзіла, аж у самым Лондане, а яна туды ездзіла прымаць роды.

- Ну, жывуць жа! Але і я час дарэмна не губляю. Учора пазнаёмілася з адным цікавым мужчынам. Ён мне сваю візітку з фоткай падараваў і запрасіў да сябе ў госці. Бяры, кажа, маўляў, у мяне яшчэ ёсць. Адразу бачна, што не валацуга, а культурны чалавек. Я хацела падараваць яму сваю, але шкада, яна ў мяне адзіная. Таму я яго запрасіла проста ў госці, бо мой хутка паедзе ў камандзіроўку, будзе менш клопату.

- А мне ўчора пашанцавала. Хоць апошняе і ледзь з рук не выхапілі, але купіла адно крэсла. Каб ты бачыла, прыгожае якое!

- Табе пашанцавала, віншую! Вой, што я табе зараз раскажу! Але, чую, нешта ў цябе там гарыць.

- Я зараз зірну, кумачка. Трубку не кладзі, пачакай!.. Ты, кумачка, малайчына! Я паставіла ўключаны прас на новае крэсла, гавару з табой, а яно гарыць! Ужо і канапа ля яго загарэлася. Пачакай, не кладзі трубку! Я зараз злётаю да суседзяў, выклічу па тэлефоне пажарных, потым дагаворым...

**ВІКТАР БАЙДАКОЎ**
**/"Вожык"/**

## Адведкі ў суседкі

Раз знаёмая суседка,
Што жыве ў блёку,
Мяне паклікала ў адведкі,
Каб прыйшоў па змроку.
Што ж, падумаў, мо і варта
Наведаць жанчыну.
І пайшоў проста для жартаў,
Без важнай прычыны.
Я званок крануў нясмела,
Хачу прывітацца...
Мне аж вока пабялела:
Лезе цалавацца!..
Засаромлены, з суседкай
Узяў пацалаваўся,
І ад той пары няўседка, -
Так рассмакаваўся!
Мяне ў комнату ўвяла,
За стол пасадзіла,
А сама ў буфет пайшла
І зараз жа з'явілась.
У руках нешта дзяржыць
У форме гранаты...
А ў мяне сэрца дрыжыць,
Хоць ты рві дахаты!
Але хутка страх прайшоў -
Я пазнаў бутэльку.
І да сёння, без двух слоў
Сваю помню памылку.
У маю шклянку наліла
Вадкасці чырвонай,
І сама разам піла
Даўняя знаёмая.
І так па шклянцы, па другой -
Стала цеплавата,
Замест адкрыць акно на двор -
Просіць распранацца.
Кінуў я пінжак набок,
Расслабіў усе мышцы,
І яна зняла шляфрок,
Стала паўгалышкай.
Нейк нясмела я ўзгляну ў
На яе паўголле...
Ды не помню, як заснуў
У цёплым прыполе.
Рана ўстаўшы, паглядзеў
Ды пачухаў голаў
Я ж пінжак толькі раздзеў,
А чаму стаў голы?!
І пры мне, як я, ляжыць
Голая суседка.
Цяпер думаю: як жыць
Па такіх адведках?

**Я. ФЕДЗЮКЕВІЧ**

## РАЗЕТКА НА «Б»

**Управа:** 1/ можа яе мець анекдот, 2/ хлапчукі-шкоднікі, галадранцы /у сярэдзіне асот/, 3/ падтрымка столі, 4/ укладае камень ля каменя, 5/ вялікі горад у Еўропе, 6/ балбатун, лапатун, ілгун, сабака, 7/ архітэктурны стыль, 8/ сплаў медзі на медалі.

**Улева:** 1/ аздоба для паненкі, 2/ дрэва, з якога можна піць сок, 3/ сядзяць, ядуць, п'юць, жартуюць і часта спяваюць, 4/ вельмі непрыемна ўпасці ў яго, а да таго ў новым адзенні, 5/ кофтачка, 6/ рабочы, які калісьці цягаў судны, 7/ колер яснага неба, 8/ лясны звер, сваяк куніцы.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.




**Адказ на касяк з 13 н-ра. Управа:** чабан, чорт, Чувашыя, чэх, чалавек, чарка, чакан, чоп. **Улева:** час, чамадан, чужое, чэрап, чытанка, чахол, чапец, чад.

**Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Крыстына Няплоха з Бельска-Падляшскага і Лявон Федарук з Рыбалаў.**

**Адказ на касяк з 14 н-ра. Управа:** шпулька, шпіёнка, шахты, шляк. **Улева:** шпала, шпілька, шалёўка, штык.

**Кніжныя ўзнагароды высылаем Ірэне Лукшы з Семяноўкі і Аляксандру Дабчынскаму з Беластока.**





**„Niwa", ul. Suraska 1, 15—950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210—33**
**Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.**

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał upływa 20 maja 1992 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044—1195—139—11.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie rownież prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.